ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (83) люты 2018 год
CATHOLICNEWS.BY

# У Росіцы ўшанавалі памяць благаслаўлёных Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры






Стар. 8

## Айцец Яўген Эйсмант SAC: "Я атрымаў ад Бога другі шанец"

Айцец Яўген распавядае пра гісторыю свайго паклікання



Стар. 6

## Пастырскае пасланне На Вялікі пост 2018 года




Стар. 3

## У Камаях адзначылі гадавіну нараджэння ксяндза-паэта Канстанціна Стаповіча



Стар. 4

## У Афрыцы з'явіўся касцёл, які "прыляцеў" з Польшчы



Стар. 9

## Пытанні святару

Ці адзін Бог у каталікоў і праваслаўных?

Стар. 12-13



Жыццё без сакраманту шлюбу

Стар. 11

Каталіцкі ВЕСНІК №2(83) люты 2018 г.

# Падрабязнасці размовы Папы Францішка з беларускімі біскупамі

**Структурныя змены ў Касцёле ў Беларусі, нюансы беларускага заканадаўства, фармацыя будучых святароў і моладзі, а таксама магчымы візіт Пантыфіка ў Беларусь былі галоўнымі тэмамі сустрэчы Святога Айца з беларускім епіскапатам, які наведаў Рым з візітам "Ad limina Apostolorum".**

Аўдыенцыя адбылася 1 лютага 2018 года ў Ватыканскім Апостальскім палацы. Падрабязнасцямі падзяліўся з Беларускай рэдакцыяй Ватыканскага радыё арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

*"Я не першы раз прымаю ўдзел у візітах "Ad limina Apostolorum", не першы раз сустракаюся ў межах такога візіту з Пантыфікам, аднак упершыню фармат гэтай сустрэчы быў іншы, не такі, як раней. Мы прывіталіся з Папам, потым селі вакол яго, і тады ён папрасіў нас прадставіць сітуацыю Касцёла ў Беларусі. Я зрабіў гэта, пасля чаго адбыўся дыялог: Папа задаваў пытанні нам, потым мы задавалі пытанні яму. Яго найбольш цікавілі праблемы сям'і, выхавання моладзі, фармацыі святароў і кансэкраваных асобаў, адносіны з дзяржавай, з іншымі канфесіямі, асабліва з Праваслаўнай Царквой"*, – распавёў старшыня Канферэнцыі Біскупаў.

## Папа здзіўлены асаблівасцямі беларускага заканадаўства

Паводле арцыбіскупа Кандрусевіча, Святы Айцец вельмі добра ўспрыняў прадстаўленую яму інфармацыю. У той жа час ён быў здзіўлены некаторымі праблемамі, у прыватнасці асаблівасцямі беларускага заканадаўства, якія патрабуюць, каб замежныя святары, якія прыбываюць у краіну, атрымлівалі дазвол на цэлебрацыю св. Імшы.

*"Папа быў вельмі здзіўлены, калі даведаўся, што 45 біскупаў, з якіх 9 кардыналаў, што прымалі ўдзел у пленарным пасяджэнні Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы, таксама павінны былі атрымаць дазвол на цэлебрацыю св. Імшаў. Гэта ж імідж краіны! Яму гэта было вельмі цяжка зразумець..."*, – заўважыў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

## Пашырэнне структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі

Іерарх распавёў, што Пантыфік цікавіўся канкрэтнымі праблемамі жыцця святароў, кансэкраваных асобаў, фармацыі святароў і семінарыстаў. *"Напэўна, адным з галоўных пытанняў было пашырэнне структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Папа вельмі станоўча выказаўся на гэты конт"*, – сказаў арцыбіскуп і дадаў, што гаворка ідзе пра новых біскупаў і новыя дыяцэзіі.

*"Вядома, што Магілёў у гісторыі Каталіцкага Касцёла на нашых землях займаў вельмі важнае месца і сёння ён узгадваецца ў назве Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, але з гістарычнага пункту гледжання заслугоўвае таго, каб быць асобнай дыяцэзіяй. Пра гэта мы таксама казалі... Гродзенская дыяцэзія – вялікая. Таксама штосьці трэба думаць на гэты конт"*, – адзначыў Мітрапаліт. Паводле яго, з'яўленне рэгіянальных біскупаў у Гомелі і Магілёве – важны крок у станоўчым вырашэнні гэтага пытання.

## Пытанне папскага падарожжа ў Беларусь

Падчас сустрэчы беларускага епіскапату са Святым Айцом уздымалася тэма папскага візіту ў Беларусь. "Папа сказаў так: у гэтым годзе гэта немагчыма, бо ўжо распісаны ўвесь графік візітаў, аднак ён вельмі, вельмі хацеў бы прыехаць. Ён марыць пра тое, каб прыехаць у нашу краіну. Папа даў нам надзею адносна таго, што, на маю думку, у блізкай будучыні ён прыедзе да нас. Ён сказаў: "Мне вельмі хацелася б прыехаць. Тое, як мы прадставілі Касцёл і тое, пра што ён ведаў раней, вельмі яго зацікавіла", – падкрэсліў арцыбіскуп Кандрусевіч.

Беларускія біскупы распавялі Францішку пра моцную народную пабожнасць, дзякуючы якой вера была захаваная і перададзеная новым пакаленням. Яны расказалі пра доўгія чэргі да канфесіяналаў, якія ўзнікаюць у беларускіх касцёлах, асабліва ў перыяд Адвэнту і Вялікага посту.

Папу цікавіла праца Касцёла з моладдзю. Ён з вялікай радасцю ўспрыняў інфармацыю пра правядзенне моладзевых чуванняў, дыяцэзіяльных сустрэч, а таксама пра агульнабеларускую сустрэчу моладзі, якая сёлета пройдзе ў Гродне. Іерархі распавялі Святому Айцу пра падрыхтоўку Касцёла ў Беларусі да Сусветных дзён моладзі ў Панаме і да Сінода Біскупаў на тэму моладзі. Арцыбіскуп Кандрусевіч паведаміў, што маладая беларуская верніца прыме ўдзел у перадсінадальнай сустрэчы, якая ў бліжэйшыя месяцы пройдзе ў Ватыкане.

Перад візітам да Папы Францішка чальцы Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі раніцай цэлебравалі супольную Эўхарыстыю ля магілы св. Пятра, у гротах ватыканскай базылікі. Падчас літургіі яны асаблівым чынам маліліся за Касцёл і народ Беларусі.





# Папа Францішак даў парады вернікам у пасланні на Вялікі пост

***"А з-за таго, што пашырыцца беззаконне, любоў многіх астыне"* (Мц 24, 12) – менавіта гэтыя словы з Евангелля паводле Мацвея сталі эпіграфам да сёлетняга паслання Папы на Вялікі пост. Яно было апублікавана 6 лютага 2018 года ў Ватыкане.**

Францішак нагадаў, што гэты фрагмент утрымліваецца ў прамове Езуса, якая тычыцца канца часоў. Ён абяцае сваім вучням вялікія пакуты, з'яўленне шматлікіх ілжэпрарокаў, пагрозу знікнення ў сэрцах любові – сутнасці ўсяго Евангелля.

## Ілжэпрарокі

Пантыфік параўноўвае ілжэпрарокаў з "заклінальнікамі змей": яны выкарыстоўваюць чалавечыя эмоцыі, каб зняволіць чалавека. "Колькі мужчын і жанчын жывуць нібыта пад заклёнам ілюзіі грошай, што на самай справе робіць іх рабамі прыбытку або бязбожных інтарэсаў! Колькі людзей жыве, думаючы, што яны самадастатковыя, а затым становяцца ахвярамі адзіноты!", – звярнуў увагу Святы Айцец.

Іншыя ілжывыя прарокі – гэта "шарлатаны", якія прапануюць лёгкі і хуткі спосаб вызваліцца ад пакутаў: наркотыкі, "аднаразовыя адносіны", лёгкі, але несправядлівы заробак, павуцінне віртуальнага жыцця. "Гэтыя ашуканцы, якія прапануюць бязвартасныя рэчы, крадуць самае каштоўнае: чалавечую годнасць, свабоду і здольнасць любіць", – напісаў Пантыфік і заклікаў навучыцца не спыняцца на ўзроўні непасрэднага і павярхоўнага, шукаючы трывалага Божага шляху.

## Халоднае сэрца

Папа прапанаваў падумаць, якім чынам у чалавеку "астывае любоў". Ён звярнуў увагу, што любоў "тушыць" прагнасць грошай – "корань усіх бедаў", а следствам гэтага з'яўляецца адмова ад Бога: мы аддаём перавагу нашай прыгнечанасці, а не Яго Слову і сакрамантам. Усё гэта ператвараецца ў гвалт, які накіроўваецца супраць тых, каго мы лічым пагрозай для нашага камфорту: ненароджанага дзіцяці, хворага старога, іншаземца, суседа, які не адпавядае нашым чаканням.

Францішак звярнуў увагу, што любоў можа астываць таксама ў каталіцкіх супольнасцях. Прыкметамі яе адсутнасці з'яўляюцца: эгаістычная лянота, бясплодны песімізм, спакуса ізалявання сябе і пастаянныя братазабойчыя войны, менталітэт гэтага свету.

## Што рабіць?

Пантыфік адзначыў, што менавіта Вялікі пост дае разам з горкім лекам праўды сродкі для пераадолення ўсяго ўзгаданага – малітву, міласціну і пост. Малітва дапамагае выявіць схаваны самападман і шукаць суцяшэння ў Богу; практыка міласціны вызваляе ад прагнасці і дапамагае зразумець, што іншы чалавек – мой брат; пост адбірае сілу ў нашага гвалту, абяззбройвае яго і дае вялікія магчымасці для нашага росту.

"Я хацеў бы, каб мой голас выйшаў за межы Каталіцкага Касцёла і дасягнуў усіх вас, мужчыны і жанчыны добрай волі, адкрытыя для Бога. Калі як мы, вы засмучаныя распаўсюджваннем зласлівасці ў свеце, калі вас турбуе заледзяненне, якое паралізуе сэрца і дзеянне, калі вы бачыце, што слабне пачуццё агульнай чалавечнасці, далучыцеся да нас, каб мы разам малілі Бога, пасціліся і разам, наколькі можам, дапамагалі братам!", – звярнуўся Пантыфік.

## Полымя Пасхі

Папа заклікаў каталіцкіх вернікаў горача выйсці на велікапосны шлях, абапіраючыся на міласціну, пост і малітву. Добрай падтрымкай ён назваў агульнакасцельную ініцыятыву "24 гадзіны для Пана", што будзе праходзіць 10 сакавіка, бо яна з'яўляецца стымулам для таго, каб сакрамант пакаяння ажыццяўляўся ў кантэксце эўхарыстычнай адарацыі. Ён заклікаў, каб у кожнай дыяцэзіі свету па меншай меры адзін храм заставаўся адчыненым на працягу ўсіх сутак. Францішак пажадаў, каб кожны вернік перажыў досвед вучняў Эмаус, каб сэрца кожнага зноў запалымнела верай, надзеяй і любоўю.

# Пастырскае пасланне На Вялікі пост 2018 года

**Паважаныя святары, шаноўныя браты і сёстры ў манастве, дарагія вернікі!**

На пытанне вучняў Яна Хрысціцеля адносна посту Езус адказаў: *"Ці могуць быць у жалобе госці на вяселлі, пакуль з імі жаніх? Але прыйдуць дні, калі будзе забраны ад іх жаніх, і тады будуць пасціць"* (Мц 9, 15). Уваходзячы ў перыяд разважанняў пра Пасхальныя таямніцы жыцця Езуса Хрыста, у той час, калі стаўся "забраны ад іх жаніх", мы распачалі саракадзённы Пост. На самым яго пачатку мы пачулі словы Хрыста: ***"Кайцеся і верце ў Евангелле!"*** Крыху раней, перад згаданымі словамі ў Евангеллі, Езус дае гэтаму матывацыю: *"Споўніўся час, і наблізілася Божае Валадарства"*(Мк1,15).

Якая сувязь існуе паміж постам і тым, што Езус называе Сваім Валадарствам? Прыгадаем сабе, чым яно ўвогуле ёсць. У літургічнай малітве на Урачыстасць Хрыста Валадара знаходзім наступнае тлумачэнне гэтага паняцця: *"Валадарства Божае – гэта валадарства праўды і жыцця, валадарства святасці і ласкі, валадарства справядлівасці, любові і супакою"*. І гэта тое, з чым прыходзіць Бог да чалавека. Мы таксама, напэўна, не былі б супраць апынуцца ў такой рэчаіснасці, дзе няма падману, нянавісці, здрады, подласці, злоўжывання ці зняволення. Разам з тым, гледзячы на тое, што сёння адбываецца ў свеце і ў нашым асяроддзі, мы добра разумеем, як далёка яшчэ да таго, каб Божае Валадарства на гэтай зямлі стала рэчаіснасцю. Хутчэй, сёння гэта можа выглядаць як утопія, чым як штосьці магчымае да ажыццяўлення. Аднак калі мы прыгадаем сабе яшчэ адну якасць Божага Валадарства, пра якую кажа Хрыстос, а менавіта, што яно *"Не прыйдзе... заўважальна, і не скажуць: Вось тут", або: "Там". Бо Валадарства Божае ёсць унутры вас"* (Лк 17, 20-21), то яго перспектыва ў дачыненні да асобнага чалавека не выглядае ўжо такой безнадзейнай.

Так, гэта нялёгка – быць сёння носьбітам хрысціянскіх каштоўнасцей у свеце, які настаўлены да іх непрыязна, калі не сказаць, варожа. Таму першае, чаму павінен паспрыяць час Вялікага посту, гэта абудзіць і ўмацаваць нашу матывацыю БЫЦЬ Хрысціянінам! Нягледзячы на цяжкасці і перашкоды, будаваць Божае Валадарства ў сваім сэрцы. Тады яно, як той агонь, будзе асвячаць усё навокал, сагравашь і запальваць сабой іншых. Пра гэта кажа нам Езус у Евангеллі: *"Агонь прыйшоў Я кінуць на зямлю і як жа хачу, каб ён ужо разгарэўся!"* (Лк 12,49). Разгарэўся ў душы паасобнага чалавека.

Сапраўдную ж матывацыю нашай веры можа даць толькі асабістае спатканне з Хрыстом. Таму асаблівую вагу ў час посту набывае малітва, якая павінна стаць перадусім услухоўваннем у словы Хрыста, якія Ён пакінуў нам у Святым Пісанні. Прапаную вам, дарагія браты і сёстры, каб ужо нават сёння, вярнуўшыся дадому, яшчэ раз зазірнуць у Біблійны тэкст. Няхай ён будзе вельмі кароткі, але было б вельмі добра, калі б гэта ўвайшло нават ў звычку і стала нашай штодзённай патрэбай.

Пачуць і зразумець Божае Слова сваім сэрцам можна тады, калі яно чыстае і супакоенае. Таму Касцёл у клопаце пра духоўнае дабро сваіх дзяцей загадвае ў гэты час скарыстацца Сакрамантам Паяднання і пазбягаць гучных забаў. Апошняе, калі далучыць да гэтага яшчэ абмежаванне ў карыстанні інтэрнэтам і тэлевізарам, можа стаць вельмі дзейсным лекам ад сучаснай хваробы недахопу часу, вызваляючы яго такім чынам для асабістых духоўных спраў і для наших бліжніх.

Напэўна, няма патрэбы казаць, што ўсё гэта не будзе давацца нам лёгка, бо гэта духоўная барацьба, якая вымагае самаадрачэння. Аднак мы павінны быць у ёй пераможцамі. Прыклад таму дае нам сёння сам Езус Хрыстус, дазваляючы, каб і Яго спакушаў злы дух. Так як кожнага з нас, той выпрабоўвае Езуса на прагавітасць цела, духу і ганарыстасць, і за кожным разам атрымлівае паразу. Хрыстус адкідае яго прапановы, паказваючы нам шлях, які вядзе да перамогі. Так на прапанову падпарадкаваць усё заспакаенню выключна зямных, цялесных патрэбаў мы павінны памятаць пра існаванне вышэйшых, духоўных каштоўнасцей, ад якіх у першую чаргу залежыць жыццё чалавека як асобы. На прапанову зрабіць Бога сваім слугою і карыстацца Яго моцай у рэалізацыі сваіх планаў мы павінны памятаць, адкуль мы і хто мы для Яго і Ён для нас. На прапанову замяніць Божы аўтарытэт на нейкі іншы коштам багацця і ўлады, мы павінны памятаць, што ёсць Адзіны годны пакланення і праслаўлення, да Якога належаць гонар і ўзнагарода за вернае служэнне, Той, Каго называем нашым Нябесным Айцом.



Разважаючы пра спакусы злога духа, варта памятаць, што ў яго ёсць падступны "саюзнік", які хаваецца ў нашай сапсаванай натуры. Гэта наступствы першароднага граху – слабасць і няздольнасць нашай волі быць заўсёды паслухмяным Богу і Яго загадам. Гэта тое, пра што кажа Апостал народаў у пасланні да Рымлянаў: *"Дабро, якое хачу, не раблю, а зло, якога не хачу, раблю... Паводле духоўнага чалавека знаходжу задавальненне ў Законе Божым, але ў маіх членах бачу іншы закон, што змагаецца з законам майго розуму і робіць мяне нявольнікам закону граху, які ў маіх членах"* (Рым 7, 19-23). Менавіта пост з'яўляецца тым сродкам, які абяззбройвае гэтага "саюзніка", дазваляючы нам лягчэй захоўваць Божае права і быць мацнейшымі ў выпрабаваннях спакусамі, паводле прынцыпу: *"...моц удасканальваецца ў слабасці"* (2 Кар 12,9). Наколькі моцны павінен быў быць дух прарокаў і самога Езуса Хрыста, Якія на працягу сарака дзён і начэй абыходзіліся без ежы і піцця! Канешне ж, нашае ўстрыманне не павінна быць нагодай да спрэчак, непаразуменняў і разладу, *"і каб біць грэшным кулаком. Не пасціце так, ... каб быў чутны ваш голас на вышынях"* (Іс 58, 4). Таму ў першую чаргу мы мусім памятаць пра той пост, якога перадусім чакае ад нас Нябесны Айцец: *"...разарваць кайданы беззаконня, развязаць путы ярма, адпусціць на свабоду прыгнечаных і разбіць усялякае ярмо. Ці ж гэта не тое, каб дзяліцца з галодным хлебам сваім, пускаць у дом бедных вандроўнікаў. Калі ўбачыш голага, каб апрануць яго і ад роднага свайго не хавацца?"* (Іс 58, 6-7).

Слухаючы гэтыя словы Прарока Ісаі, мы не можам застацца абыякавымі да патрэбаў тых, хто апынуўся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі і не дае сабе рады. Заўсёды можам знайсці нагоду падзяліцца хлебам з галодным, вопраткай з тым, хто не мае адзення, і ахвяраваць свой час таму, хто проста патрабуе, каб яго выслухалі. Гэтыя простыя рэчы, якія вынікаюць з нашай веры, становяцца лекамі для нашага грамадства, усё больш хворага на эгаізм, самотнасць і страту сэнсу жыцця.

Да практыкі гэтых трох дабрадзейнасцяў – малітвы, міласціны і посту – заахвочвае нас сёння і Папа Францішак, каб супрацьпаставіць іх сучасным хваробам свету, сярод якіх галоўным называе "заледзянелае сэрца" і "астывальную любоў". Таксама Святы Айцец перасцерагае перад сучаснымі ілжывымі прарокамі, якіх параўноўвае з "заклінальнікамі змей", што выкарыстоўваюць чалавечыя эмоцыі, каб зняволіць чалавека. Іншыя, каторых называе "шарлатанамі", "якія прапануюць лёгкі і хуткі спосаб вызваліцца ад пакутаў: наркотыкі, "аднаразовыя адносіны", лёгкі, але несправядлівы заробак, павуцінне віртуальнага жыцця."Гэтыя ашуканцы, якія прапануюць бязвартасныя рэчы, крадуць самае каштоўнае: чалавечую годнасць, свабоду і здольнасць любіць" *(Паводле Ватыканскага радыё).*

Занепакоены шматлікімі ваеннымі канфліктамі ў свеце на розных кантынентах, Папа звяртаецца з просьбай да ўсіх вернікаў і людзей добрай волі прыняць удзел у асаблівым дні малітваў і посту ў інтэнцыі міру. Гэтым днём павінна стаць пятніца першага тыдня Вялікага Посту – 23 лютага. Заахвочваю вас, дарагія браты і сёстры, далучыцца да гэтага духоўнага змагання і ахвяраваць свае малітвы і пост у згаданы дзень згодна з інтэнцыяй Папы Францішка. Таксама Наступнік Святога Пятра прапанаваў правесці сусветнае малітоўнае чуванне "24 гадзіны для Пана" ў тых касцёлах, дзе гэта магчыма, 10 сакавіка. Няхай сумесная малітва Паўсюднага Касцёла дапаможа ва ўсталяванні супакою на нашай планеце!

Напрыканцы перадаю вам, дарагія дыяцэзіяне, прывітанне ад Святога Айца, спатканне з якім адбылося ў межах нядаўняй візітацыі біскупаў Беларусі "Ad limina". Разам з яго абяцаннем памяці ў малітве і Апостальскім блаславленнем, якога са шчырым сэрцам на гэты час Вялікага посту вам удзяляю, даручаючы апецы і заступніцтву Найсвяцейшай Панны Марыі-Валадаркі азёраў і нашых сэрцаў:

**У Імя + Айца, + і Сына, + і Духа Святога. Амэн.**

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**

Віцебск,
15 лютага 2018 г.

# У Камаях адзначылі гадавіну нараджэння ксяндза-паэта Канстанціна Стаповіча



**Святар больш вядомы пад сваім літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк. Менавіта ў Камаях у 1915 годзе распачалося яго святарскае служэнне.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

З гэтай нагоды ў Камаі прыехалі госці з Віцебска, Мінска, Астраўца, Глыбокага. Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Анатоль Захарэўскі, які з'яўляецца пробашчам парафіі ў Клюшчанах. Менавіта ў Клюшчанскай парафіі нарадзіўся будучы ксёндз Канстанцін Стаповіч. Тут ён быў ахрышчаны, у сваім родным храме адслужыў сваю прымніцыйную Імшу, а пасля пэўны час быў тут пробашчам.

## На гадавіну незалежнай Беларусі

І Вялікі дзень. Казаў бы Хрыстус,
Сваёй дзень смерці непавіннай
Злучае ў звязак тайны – дзіўны
На гэты год, на гэты дзень.

Кальварыю прайшла Русь Бела,
Крыжамі значана усюды,
Магіл без ліку – жэртв прыблудаў
У гэты год, у гэты дзень...

А іншай песні не пачуеш,
Як толькі стогн, жальбу, скрыготы.
Палын расце, цвітуць асоты
У гэты год, у гэты дзень.

Ўсе наругаліся даволі,
Судом Пілата пакаралі,
Адзеж дзялілі, воцт давалі
У гэты год, у гэты дзень.

Прад вокам свету крыжавалі
Вучоныя і фарысеі,
І кніжнікі, і садуцэі
У гэты год, у гэты дзень.

І страж паставілі цяжкую:
«Не ўстане з мёртвых аніколі.
Верыла ў Бога... Яго воля
Не ў гэты час, не ў гэты дзень».

Не верылі, што душу мае,
Над целам здзекі учынілі,
У цвёрдай скале палажылі:
У гэты год, у гэты дзень.

Прабілі сэрца, рукі ногі,
Між неразумных палічылі,
Абрабавалі, абяднілі
У гэты год, у гэты дзень.

Змілуйся ж, Божа, Ты над ёю,
Не дай у гробе век ляжаці,
Пазволь да жыцця ёй устаці
У гэты час, на трэці дзень!

*Казімір Сваяк*

## Беларускі святар і паэт

Канстанцін Стаповіч нарадзіўся 19 лютага 1890 года на Астравеччыне ў вёсцы Барані ў сялянскай сям'і. Усяго ў сям'і было шасцёра дзяцей. У 1905 годзе скончыў паватовую школу ў Свянцянах. У 1908-ым Канстанцін Стаповіч паступіў у Пецярбургскую духоўную семінарыю. Своечасова закончыць семінарыю перашкодзіла хвароба: у 1912 годзе ён захварэў на сухоты, таму зіму 1912-1913 гг. правёў на курорце ў Закапанэ.

З 1913 года пачынаюць друкавацца яго творы. Першы верш – "На імяніны майго пробашча" – быў змешчаны ў газеце "Беларус".

Святарскае пасвячэнне Канстанцін Стаповіч атрымаў вясной 1915 года з рук біскупа Цеплака ў Петраградзе. У хуткім часе яго прызначаюць вікарыем у камайскі касцёл. Пасля Камаяў ксяндза Канстанціна Стаповіча пераводзяць у Клюшчаны, яго родную парафію.

У Клюшчанах ксёндз Стаповіч стварыў хор, дзе спявалі хлопцы і дзяўчаты з навакольных вёсак. У яго быў добры слых і лірычны тэнар, ён добра граў на скрыпцы. З хорам ксёндз развучыў не толькі рэлігійныя, але і народныя беларускія песні. Першае казанне на беларускай мове прагучала ў клюшчанскім касцёле 21 лістапада 1915 года.

У Клюшчанах узнік нелегальны гурток "Хаўрус Сваякоў", галоўнай задачай якога з'яўлялася самаадукацыя на аснове хрысціянскай этыкі. У той час не хапала настаўнікаў, і ксёндз арганізоўвае курсы па іх падрыхтоўцы. Напрыканцы 1916 года за дзейнасць па беларусізацыі касцёла Канстанціна Стаповіча пераводзяць на Беласточчыну, дзе ён таксама спрабуе ўвесці ў богаслужэнне беларускую мову. Праўда, такую яго дзейнасць адразу забараняе мясцовы пробашч.

У гэтыя часы у розных выданнях публікуюцца яго творы, дзе ён выступае пад сваім літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк. Праўда, пагаршаецца здароўе, і ўсё больш часу ён вымушаны праводзіць ў Закапанэ.

У канцы 1920 года ксёндз Казімір Стаповіч атрымлівае прызначэнне ў Засвір, дзе служыць у напаўразбураным кармяліцкім саборы, перарobленым пасля паўстання 1863 года ў праваслаўную царкву. Ён стаў першым пробашчам пасля аднаўлення касцёла, тоўстыя і вільготныя сцены якога былі шкоднымі для яго здароўя. Праз данос нядобразычліўцаў яму забараняюць служыць на беларускай мове. Новыя польскія ўлады праводзяць нават вобшук з мэтай знайсці беларускамоўную літаратуру.

Восенню 1922 стан здароўя ксяндза яшчэ больш пагаршаецца, ён зноў вымушаны ехаць у Закапанэ. Памёр Канстанцін Стаповіч 6 мая ў шпіталі Вільні, пры ім да канца знаходзіўся ксёндз Адам Станкевіч. Пахаваны тама жа, на могілках Роса. Згодна з яго апошняй воляй, над магілай на развітанне гучалі малітвы на трох мовах: беларускай, польскай і літоўскай.

Ксёндз Канстанцін Стаповіч пражыў кароткае жыццё – усяго толькі 36 гадоў, але ён паспеў шмат зрабіць для Беларусі. Нам, яго нашчадкам, варта як належыць вывучыць і ацаніць літаратурную і духоўную спадчыну паэта.

## Як на беларускай мове з Богам годна размаўляў святар Сваяк

Паколькі ў гэтым годзе Вялікі пост у католікаў распачаўся 14 лютага, было вырашана адзначыць 128-я ўгодкі з Дня нараджэння Казіміра Сваяка крыху раней. Таму мерапрыемствы з гэтай нагоды адбыліся ў нядзелю, 4 лютага.

Падчас Імшы гучалі песні, сярод якіх быў і твор на словы Станіслава Валодзькі з Даўгапілса "Вёсачка Барані за барамі":

*Моў прыгожых ёсць на свеце многа,*
*Ды найпрыгажэйшая свая.*
*Як на беларускай мове з Богам*
*Годна размаўляў святар Сваяк.*

Напрыканцы Імшы ксёндз Анатоль Захарэўскі звярнуўся да вернікаў, распавёўшы пра жыццё Клюшчанскай парафіі ў апошні час. Як вядома, 6 чэрвеня мінулага года здарылася трагедыя: касцёл, звязаны з лёсам Казіміра Сваяка, быў цалкам знішчаны пажарам. Храм прастаяў амаль трыста гадоў, пабачыў на сваім вяку шмат войнаў, і вось так недарэчна быў страчаны ў мірны час. Зараз Клюшчанская парафія нешматлікая, таму не мае магчымасці аднавіць святыню. Набажэнствы адбываюцца ў плябаніі, а пад капліцу перабудоўваецца будынак старой плябаніі.

Ксёндз Анатоль распавёў кранальную гісторыю пра бусла, які пабудаваў сваё гняздо на будынку старой плябаніі. Будынак быў размешчаны побач з касцёлам, і падчас пажару птушка ратавала сваіх дзяцей, ахінаючы гняздо крыламі. І хаця ад моцнага агню пакруцілася лісце на дрэвах, бусел не пакінуў свайго гнязда.

## "Гэта справа часу, я веру, што ўсё будзе!"

Пасля Імшы пробашч парафіі ў Камаях ксёндз Яцэк Хутман запрасіў усіх у мясцовы клуб, дзе гледачоў чакала канцэртная праграма, прысвечаная паэту Казіміру Сваяку. Яе падрыхтаваў і прадставіў гурт "Балцкі субстрат" з Мінска.

У першай частцы праграмы прагучалі песні на словы паэта Казіміра Сваяка. Дарэчы, музыку да іх напісаў яго родны брат Альбін Стаповіч. Гурт "Балцкі субстрат" выступае ў Камаях ужо не першы раз, а цяпер гледачоў чакаў своеасаблівы сюрпрыз: прэм'ера песні на словы Казіміра Сваяка, якая прысвечаная жыццю святога Язафата Кунцэвіча.

Трэба адзначыць, што гэты святы лічыцца апекуном Віцебскай дыяцэзіі, яе нябесным заступнікам. Прагучаў твор на самым пачатку канцэртнай праграмы ў выкананні лідара гурта "Балцкі субстрат" Максіма Іўкіна. Музыка так выказаўся пра творчасць Казіміра Сваяка: "Калі ты адкрываеш гэта для сябе, то адкрываеш гэта і для іншых. Адна справа, калі ты чытаеш тэкст на паперы, іншая, калі гэта перададзена праз нейкія эмоцыі. І мы дзелімся гэтымі эмоцыямі."

Потым гледачы маглі паўдзельнічаць у віктарыне па творчасці Казіміра Сваяка. За правільныя адказы ўручаліся прызы: паштоўкі і кнігі ад грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма". Дарэчы, гэта кампанія была таксама фундатарам усёй канцэртнай праграмы.

У другой частцы імпрэзы прагучалі песні на вершы іншых рэпрасаваных паэтаў. На жаль, шырокая публіка яшчэ мала знаёмая з іх творчасцю. Але, як адзначыў Максім Іўкін, гэта справа часу: "Тут як у санэце Багдановіча: хоць зернейкі былі засохлыя, іх жыццёвая сіла адрадзілася і ніва ўскаласілася. Таму гэта справа часу, я веру што ўсё будзе!"

Сто гадоў таму Казімір Сваяк спрабаваў увесці беларускую мову ў Літургію. І, здавалася, тады гэта не мела поспеху. Але прайшло сто гадоў, і яго зерне дало ўсходы: амаль увесь Касцёл у Беларусі праслаўляе Бога на роднай мове!

## Наступная сустрэча ў маі

Пасля канцэрта святочная праграма працягнулася ў плябаніі, дзе прыхільнікаў творчасці Казіміра Сваяка сабраў пробашч Камайскай парафіі ксёндз Яцэк Хутман. Хаця святар паходзіць з паўднёвай Польшчы, ён вельмі шмат робіць для захавання і развіцця беларускай культуры. Дзякуючы яго ініцыятыве ў камайскім касцёле была ў свой час усталяваная Памятная шыльда ў гонар ксяндза Канстанціна Стаповіча (Казіміра Сваяка).

Паэты Віктар Шніп і Станіслаў Валодзька не змаглі прыехаць на свята, але даслалі ў Камаі свае новыя вершы, прысвечаныя Казіміру Сваяку. Сваячка Станіслава Валодзькі не толькі зачытала яго вершы, але і падзялілася ўспамінамі, што дзед Станіслава Юзук належыў да "Хаўрусу Сваякоў", які быў створаны ксяндзом Стаповічам падчас яго працы ў Клюшчанах.

Прачытала свае новыя вершы і верніца Камайскай парафіі Генавэфа Дубілоўніч, якая з'яўляецца пастаяннай удзельніцай Сваякоўскіх сустрэч з 2006 года. Тады было вырашана штогод праводзіць такія імпрэзы: на дзень нараджэння – у Камаях, а ў дзень смерці – у Баранях. Як патлумачыла сваячка ксяндза Стаповіча Іаланта Валуевіч, так было вырашана таму, што зімой у Барані, якая зараз стала зусім маленькай вёсачкай, цяжка даехаць. Ды і прырода вясной у гэтым куточку прыгажэйшая. Таму і прынялі такое, на першы погляд, нелагічнае рашэнне: зімой збірацца ў Камаях, а вясной – на Астравеччыне.

Дарэчы, усе ўдзельнікі сустрэчы атрымалі запрашэнне прыехаць вясной у Барані. Запрасілі туды і журналістаў "Каталіцкага Весніка", таму вясной чакайце рэпартажу з малой радзімы Казіміра Сваяка, паэта, чыю творчасць нам яшчэ належыць як след адкрыць і ацаніць.

Меркаванне

# Моладзь – надзея Касцёла і будучыня свету

**14 студзеня 2018 года ва ўсіх касцёлах было зачытанае пастырскае пасланне арцыбіскупа Тадэўша Кандрусевіча на Год моладзі.**

*"2018 год, які мы зусім нядаўна распачалі, у Каталіцкім Касцёле ў Беларусі прысвечаны моладзі, каторая ў сучасным свеце часта з'яўляецца згубленай і таму патрабуе большай духоўнай апекі. Адной з найбольш распаўсюджаных у наш час праблем бачыцца нязмерна большая зацікаўленасць маладых людзей спажывецтвам і задавальненнямі, чым ідэаламі. Небяспечным з'яўляецца крызіс у прыняцці рашэнняў і адказнасці. Маладыя людзі доўга вагаюцца ў выбары жыццёвага шляху, пра што добра сведчыць, напрыклад, павелічэнне ўзросту, у якім яны вырашаюць заснаваць сям'ю.*

*Інертнасць і адсутнасць яснага бачання будучыні прыводзяць да таго, што многія маладыя людзі жывуць з дня на дзень без канкрэтнай мэты. Моладзь вельмі лёгка паддаецца сучасным амаральным залежнасцям, з якіх трэба вылучыць нягоднае з Божай воляй сексуальнае жыццё. У выніку чаго прагрэсуе СНІД, што становіцца пандэміяй нашага часу. Да алкагалізму дадалася наркаманія, а гэта яшчэ больш ускладняе існаванне маладога чалавека.*

*Гаворачы пра залежнасці, да якіх схільны малады чалавек, неабходна вылучыць узнікненне так званай "лічбавай культуры", роля якой з кожным днём узрастае. У выніку гэтага жыццё маладых людзей усё больш абмяжоўваецца медыя- і сацыяльнымі сеткамі. Менавіта медыі, а не сям'я, школа, універсітэт, Касцёл, грамадства, выхавальнікі займаюць усё больш значнае месца ў станаўленні асобы. Таму справядліва ўзнікае пытанне: ці заўсёды мы выкарыстоўваем медыі ў мэтах нашага духоўнага ўдасканальвання? Ці служаць яны развіццю адносін паміж намі? Ці заўсёды будуюць іх? Ці часам не разбураюць?*

*Касцёл вучыць, што заданнем медыяў з'яўляецца не столькі інфармаваць, колькі "фармаваць". Таму перад Касцёлам стаіць вельмі важнае заданне і выклік. Гаворка ідзе пра належную медыйную адукацыю моладзі і ўсяго грамадства, якая не можа абмяжоўвацца толькі пазнаннем новых тэхналогій, але павінна вучыць здольнасці крытычнага выбару.*

*Адасоблены праблемай сучаснай моладзі з'яўляецца захапленне рознымі формамі акультызму і магіі. У такой складанай сітуацыі Касцёл не пакідае маладых людзей адных і без духоўнай дапамогі. Будучы адказным за духоўны стан моладзі, Касцёл, зыходзячы са сваіх абмежаваных матэрыяльных і персанальных рэсурсаў, не застаецца збоку ад выхавання юнакоў і дзяўчат і праводзіць цэлы шэраг адпаведных мерапрыемстваў.*

*Касцёл у наш час знаходзіцца перад вельмі важным выклікам, калі неабходна зрабіць крок у невядомае. А менавіта распачаць прамаўляць да моладзі мовай, якой раней не прамаўляў, і выкарыстоўваць знакі, якіх раней не выкарыстоўваў. Моладзь чакае ад нас зразумелай ёй мовы, але адначасова мовы, якая дакладна перадае вучэнне Касцёла. Таму біскупы, прэзбітары і дыяканы, семінарысты, кансэкраваныя асобы, бацькі і выхавальнікі – усе мы павінны ўстаць з канапы, абуцца і ісці да моладзі. Калі моладзь імкнецца наперад, то мы не можам пакінуць яе без адпаведнай духоўнай апекі."*

Я выбраў найбольш значныя праблемы маладога пакалення, да якіх звяртаецца арцыбіскуп. На мой погляд, пасланне надзвычай своечасовае, узрымае самае надзённае пытанне сучаснасці – выхаванне нашай моладзі. Радуе і адначасова засмучае, што за гэту справу ўзяўся Каталіцкі Касцёл, а не дзяржаўныя структуры. Хаця тут, лічу, павінны прыкласці як мага больш намаганняў усе, у тым ліку і мы з вамі.

У кожнага з нас ёсць дзеці, унукі, сваякі маладога ўзросту – наша моладзь, наша надзея і будучыня! Не будзем жа абыякавымі і мы да гэтай пачэснай Боскай справы!

*Язэп Квач,*
*Жукоўшчына*

# Тры скрыні, або Пачатак

**Калі я ўзялася пісаць артыкул, то доўга думала над тэмай, каб і карысна, і цікава, і з прыкладамі, адносна ўніверсальна. "Распачынаць варта спачатку" – думала я. Але дзе той пачатак? Як у тым выслоўі: ці курыца з яйка ці яйка з курыцы? Як вядома, чалавек паходзіць з сям'і, сям'я – база, крыніца, падмурак. Але ж сям'я і складаецца з гэтых самых "чалавекаў"!**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Думаючы пра пачатак, прыйшло ў галаву звярнуцца да Біблії. Ну вядома! Самы лепшы "google", дзе змяшчаюцца адказы. "Ага, Бог стварыў чалавека, і толькі пасля людзі ўтварылі сям'ю". Вось і пачатак майго артыкула. Такім чынам, чалавек.

Калісьці мая выкладчыца па псіхалогіі метафарычна распавядала пра часткі, з якіх складаюцца людзі. З задавальненнем карыстаюся гэтым прыкладам, і, крыху перапрацаваўшы, прыводжу яго тут.

Уявіце сабе ўтульную Нябесную майстэрню, дзе Бог стварае Асобу. Вакол высокія паліцы з рознымі скрынямі і скрынечкамі. Працоўнае месца, Бог штосьці лепіць, раўняе, выдувае – стварае цела, укладае прыгожую ўнікальную душу. З'яўляецца новы Чалавек, якога ніколі да гэтага не было, якога ніколі пасля гэтага не будзе. Бог разглядае, усміхаецца, магчыма, кажа Сваё: "Добра!" І перад тым, як адправіць новую асобу на зямлю да бацькоў, каторыя будуць клапаціцца пра Яго стварэнне, Бог дорыць Чалавеку тры скрыні. Дары, якімі асоба можа карыстацца ўсё сваё жыццё.

У першай скрыні захоўваюцца думкі – з гэтага часу чалавек мае сваё меркаванне, можа разважаць і рабіць высновы, ацэньваць сітуацыі, ствараць вобразы. У другой – эмоцыі. Цяпер у кожны момант свайго жыцця чалавек штосьці адчувае: радасць ці сум, страх ці здзіўленне, гнеў, любоў, раздражненне, захапленне і шмат іншага. Трэцяя скрыня з жаданнямі. Усё, што хочацца, у чым ёсць патрэба, што можа прынесці радасць – усё тут.

Такім чынам, знаёмцеся! Перад намі чалавек, які кожную хвіліну штосьці адчувае, пра нешта думае, чагосьці жадае. Увесь гэты набор мусіць дапамагчы дзіцяці пазнаваць свет, навучыць узаемадзейнічаць з людзьмі і наваколлем, распазнаць свае ўласныя таленты, моцныя бакі, а ў больш шырокім сэнсе – дапамагчы чалавеку зрабіць сваё жыццё якасным, напоўненым, больш шчаслівым. Задача бацькоў – заўважаць, любіць і развіваць усяго чалавека цалкам, з усім наборам.

На жаль, у постсавецкім грамадстве мы маем праблему з прыняццем Асобы. Часта больш забяспечваюць дзяцей матэрыяльна, клапоцячыся пра здароўе, харчаванне, адукацыю (і гэта добра!), але не ўмеюць заўважаць эмоцыі, пачуцці, жаданні, аўтэнтычную цікавасць маленькіх людзей, такім чынам забіраючы тыя дары, якія дадзены кожнаму па праву існавання. Якім чынам гэта адбываецца?

Хлопчыку, каторы пабіў каленка: "Не плач! Мужчыны не плачуць!" Дзяўчынцы, якая заглядаецца на новую сукенку: "Цэлая шафа ў цябе гэтыхануч! Маці трэці год у старых ботах ходзіць. Эгаістка!" Дзецямпагодкам, што гучна бавяцца, скачуць на ложку: "Ну! Селі і супакоіліся! Галава ад вас баліць. Зараз рэмень дастану!"

Так па кропельцы забіраюцца Божыя дары, ламаюцца, крадуцца: не перажываць, не сумаваць, не радавацца, не хацець! І тут гаворка не пра тое, каб не рабіць заўваг, не выхоўваць добрыя якасці ў дзетак, набываць усё, што просяць. Гаворка пра здольнасць захоўваць чалавека такім, якім стварыў яго Бог, памнажаючы яго ўнутранае багацце, развіваючы здольнасці. Заўважыць пачуцці дзяцей, назваць іх, патлумачыць, паспачуваць, пабыць з дзіцём у тым, што сапраўды мае значэнне для яго – важная задача бацькоў. І нават калі сын ці дачка не атрымаюць новую машынку, ляльку, сукенку ці тэлефон, не пазабаўляюцца гучна познім часам, у іх застанецца здольнасць адчуваць, марыць, планаваць, хацець, імкнуцца, мець магчымасць рабіць высновы, выбіраць і перажываць сваё жыццё побач з вамі.

Пра эмоцыі, іх значэнне ў жыцці чалавека, а таксама цяжкасці, звязаныя з выкарыстаннем асобных эмоцый, паразмаўляем у наступным нумары.

Дзякуй за ўвагу!

*абясцэньваць пачуцці і жаданні – маецца на ўвазе рабіць няznачным, няважным і нецікавым пачуцці і жаданні іншага чалавека.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Айцец Яўген Эйсмант SAC: “Я атрымаў ад Бога другі шанец”

### Гісторыя паклікання айца Яўгена Эйсманта SAC

**Айцец-палатын Яўген Эйсмант SAC, што служыць у Мінскай парафіі Св. Андрэя, апостала, і Св. Леапольда Багдана Мандзіча, расказаў “Каталіцкаму Весніку” пра сваё пакліканне.**

Нарадзіўся будучы святар 3 красавіка 1989 года ў Воранаве, у змешанай па веравызнанні сям'і: бацька – католік, а маці – праваслаўная.

Вось такімі ў раннім дзяцінстве былі першыя сустрэчы хлопчыка са святаром: “Мой дзядуля будаваў воранаўскі касцёл. І святар, які прыехаў тады працаваць у нашу парафію, ставіў сваю машыну ў двары дзядулі. Мне было дзесьці тры гады. Я ведаў, што ксёндз заўсёды мае нешта смачнае, таму чакаў яго каля брамы. Тады ён мне даў каробку цукерак “Мерсі”. Пасля такой першай сустрэчы я думаў, што святар – гэта той чалавек, які заўсёды раздае падарункі. Памятаю таксама дзень, калі мая сястра прыступала да Першай святой Камуніі. У капліцы (касцёл тады толькі будаваўся) я расплакаўся, а ксёндз зноў прынёс цукеркі – і я супакоіўся”.

Айцец Яўген, колькі сябе памятае, заўсёды прыслугоўваў. Калі ён вучыўся ў пачатковых класах, у Воранаўскай парафіі было каля 80 міністрантаў. Кожны малодшы хлопчык меў у касцёле свой квадрат-плітку на падлозе, дзе заўсёды стаяў. Сярод старэйшых была чарга, каб трымаць патэну або падаваць ампулкі. Дысцыпліна была добрая.

Святар успамінае сваё наведванне касцёла ў школьныя гады: “Я часта хадзіў у касцёл. Толькі ў 8 класе заняткі праходзілі ў другую змену і на Імшу я не паспяваў. А раніцай не заўсёды хацелася ісці. Аднак з 9 па 11 клас я, можа, прапусціў толькі дзве-тры Імшы.

Актыўным было жыццё парафіяльнай моладзі: праводзіліся дыскатэкі, арганізоўваліся супольныя выезды, рэкалекцыі. Як толькі была вольная хвіліна, юнак адразу ішоў у касцёл.

Вялікае ўражанне ў школьныя гады на ксяндза аказала першае пасвячэнне беларуса-палатына ў Воранаве: “Калі я быў міністрантам, да нас прыехаў дыякан, якога пасвячалі ў святары. Я вельмі здзівіўся і задумаўся, што просты чалавек з той самай мясцовасці можа стаць ксяндзом. Зараз гэты святар – пробашч а. Станіслаў Вашкевіч SAC, з якім мы разам працуем”.

Часта, гледзячы на семінарыстаў, якія прыязджалі дамоў, юнак хацеў быць падобным да іх: служыць, апранаць сутану. Пасля школы ён прымае рашэнне стаць айцом-палатынам. Для бацькоў было складана прыняць выбар хлопца, асабліва маме, якая не зусім бачыла ў ім ксяндза і адгаворвала ад семінарыі.

Святар узгадвае: “Я хадзіў да рэпетытараў, хоць ведаў, што дарма. І ў той жа час без ведама бацькоў напісаў ліст-просьбу ў Польшчу і атрымаў адказ, што мяне прымаюць на пастулат у супольнасць палатынаў. Пісьмо я паклаў у Святое Пісанне. Калі ж прыйшоў дзень тэсціравання і трэба было на цягніку ехаць у Ліду, я праспаў. Тады паказаў маці ліст з Польшчы і яна расплакалася, не прыняўшы майго рашэння. Але, забягаючы наперад, скажу, што яе стаўленне з часам змянілася”.

Знаходзячыся на другім курсе, юнак вырашыў, што пакіне навіцыят і назаўсёды вернецца дамоў: “Шмат часу трэба было прызначаць малітве, размове з Богам, медытацыі. Я не быў падрыхтаваны да гэтага. І зразумеў тады такую рэч: я хадзіў у касцёл – гэта было больш маёй звычкай. Я думаў, што служба Богу – гэта праца з людзьмі, гульня ў футбол з міністрантамі. Але тады, калі трэба было медытаваць, разважаць, праводзіць духоўныя чытанні, мне было складана. Я не чакаў, што так будзе, і па-іншаму ўсё ўяўляў. Таму на другім месяцы навіцыяту я вырашыў, што больш не змагу вучыцца. Але трымала тое, што бацькі не зразумеюць мяне. Я баяўся, таму вырашыў пачакаць”.

І вось у адзін з кастрычніцкіх дзён здарылася наступнае: “У чацвер не было заняткаў і трэба было пазбіраць грэцкія арэхі. Некаторыя трэба было стрэсці з дрэў. Я палез наверх і раптам зваліўся галавой уніз. Цела стала вялым, нерухомым. Я страціў прытомнасць. Як расказваюць іншыя, хлопцы пабеглі выклікаць хуткую дапамогу. Калі ж я расплюшчыў вочы, то не мог паварушыць аніводнай часткай цела. І тады я ўпершыню пачуў нечалавечы голас: “Толькі вер”. Я, знаходзячыся галавой у пяску, адказаў: “Веру”. І ўстаў. Такой была мая першая сустрэча з Богам. І там нарадзілася мая вера. Не ў дзяцінстве і не тады, калі я ішоў у семінарыю, а менавіта там”.

Калі а. Яўгена прывезлі ў лякарню, урачы не маглі паверыць, бо пасля такога здарэння ён павінен быў ляжаць, як расліна.

У той жа дзень святар зразумеў вельмі важную рэч: “Пасля лякарні я пайшоў, каб паляжаць у пакоі на чацвёртым паверсе. На першым жа знаходзілася капліца. І тады, не даходзячы адну прыступку наверх, падумаў: “Я атрымаў ад Бога другі шанец. Але не паверыў Богу. Я ў Бога паверыў, але Яму не паверыў”. Тады я стаў на калені. Так было першы раз у жыцці… Цяклі слёзы. Я вярнуўся ў капліцу, разумеючы, што прайшоў міма Бога, Які мяне ўратаваў. Так нарадзілася маё пакліканне… І калі ўзнікалі потым нейкія цяжкасці ў жыцці, я ішоў у капліцу і ўспамінаў гэты момант”.

За два дні да святарскага пасвячэння а. Яўген зразумеў, што не гатовы быць святаром: “Як я магу, ведаючы свае слабасці, узяць хлеб у рукі, каб ён перамяніўся ў Цела Хрыста? Я нягодны і недасканалы… Я спалохаўся. Пайшоў да духоўнага айца і сказаў, што не гатовы. Ён павінен быў патэлефанаваць дырэктару, бо там рыхтаваліся ўсе патрэбныя дакументы. Мы памаліліся, і ён сказаў, што патэлефануем разам пасля вячэры і скажам пра маё рашэнне. Я пайшоў на вуліцу і цэлы дзень хадзіў то да хлопцаў, то яшчэ куды. Паўсюль хадзіў. А перад вячэрай зайшоў у капліцу і зноў пачуў той самы нечалавечы голас”:

– Паглядзі на крыж… Што ты бачыш?

–Езуса.

– Гэта я. Бачыш на чым я?

– На крыжы.

– А ты ведаеш, з чаго зроблены крыж?

– З дрэва.

Голас працягваў: “Гэта дрэва, магчыма, было гнілым, а стала Святым Крыжам. Гэта не ты перамяняеш. Толькі Я перамяняю хлеб у Цела… Няма нічога дасканалага… І калі ты будзеш дакранацца Цела, то ў той момант ты сам будзеш перамяняцца. Так, як і гэтае дрэва… Калі ты будзеш дакранацца да Цела, Я буду цябе перамяняць”.

Пасля капліцы а. Яўген пабег да духоўнага айца, які заплакаў, калі пачуў расказанае. А першым казаннем святара падчас першай святой Імшы было менавіта гэтае сведчанне.

Пасля святарскага пасвячэння ў 2014 годзе айца накіравалі ў Мінск, дзе ён служыць і зараз.

*Гутарыла*
**Ірына Радзевіч**

# Дабро

**Рыта прамаўляла гэтыя два магічныя словы кожны раз, калі дзякавала знаёмым і незнаёмым людзям за дапамогу ў лячэнні хворай дачкі, і заўсёды верыла ў іх сілу. Дабро вяртаецца! Сотні, тысячы разоў уcлых і сама сабе яна паўтарала гэты выраз і ўсёй душой жадала шчасця кожнаму чалавеку, які сустрэўся на яе няпростым жыццёвым шляху...**

**Іна Сняжкова**

Рыта і Дзіма сабраліся на чарговым “сямейным савеце”. Колькі ж іх было за 15 гадоў сумеснага жыцця! Яшчэ гадоў шэсць таму такія “пасяджэнні” здаваліся лёгкімі і нязмушанымі, напоўненымі жыццём, мэтамі, марамі. Пытанні, якія абмяркоўваліся, на той момант былі вельмі важнымі. Напрыклад, што купіць на заробленыя грошы: вудачку ці новы аб'ектыў? Дзіма – больш чым заўзяты рыбак – і Рыта – больш чым таленавіты фатограф – маглі доўга пераконваць адно аднаго, што сямейны бюджэт павінен быць “распілаваны” менавіта на яго (яе) карысць.

Пяць гадоў таму мужу і жонцы давялося цалкам перагледзець свае погляды на жыццё. Для Дзімы рыбалка, а для Рыты фатаграфія ператварыліся ў магчымасць хоць ненадоўга “ўцячы” ад жорсткай рэальнасці, хоць на час абстрагавацца ад трагедыі, якая пастукала ў іх дом…

Дзіцячы цэрэбральны параліч. Гэты дыягназ стаў прысудам не толькі для іх нованароджанай дачкі Сафіі, але і для ўсіх сямейнікаў. Адмаўленне, слёзы, адчай. Дзікае жаданне дапамагчы, выратаваць, спыніць фізічны боль дачкі і больш ніколі не чуць крыку сваёй душы, які заглушае абсалютна ўсё на свеце! Думкі, думкі, так шмат думак, як справіцца з гэтай страшнай хваробай…

Цяпер на “сямейных саветах” галоўным было толькі адно пытанне: дзе ўзяць грошы на чарговую рэабілітацыю за мяжой. На сёння іх было восем. Цэлых восем! Якія ж каласальныя намаганні былі прыкладзеныя, каб па крупінках сабраць тысячы, ды не – ужо дзясяткі тысяч еўра – на аплату кожнай з такіх паездак! Дабрачынныя акцыі, канцэрты, кірмашы – Рыта арганізоўвала ўсё, што заўгодна, каб пакрыць нерэальныя, непад'ёмныя для сям'і сумы. А як няпроста было пераступіць праз сябе, праз свой гонар, праз неразуменне людзей і іх крыўдныя размовы за спінай, ад якіх на душы станавілася яшчэ больш балюча ...

*“Трэба паспець, трэба лячыць, трэба так шмат зрабіць, каб выратаваць. І мне здаецца, калі спынюся, я здамся ...”* Рыта друкуе гэтыя радкі на сваёй старонцы “Вконтакте”, у чарговы раз дзелячыся са сваімі сябрамі самымі шчырымі думкамі. Паіншаму нельга. Выгаварыцца, хоць камп'ютару выгаварыцца, каб не звар'яцець.

Але аднойчы сілы пакідаюць. Бяссонныя ночы, праца на знос, адсутнасць станоўчай дынамікі ў лячэнні. Стоп. “Няхай усё ідзе сваім парадкам”, – вырашае Рыта і ўпершыню за гэтыя бясконца доўгія пяць гадоў разумее, што здаецца. Пішуцца новыя радкі ...

*“Я ведаю, як магу прыкрыць яе асаблівую ручку прыгожымі валасамі. Я ведаю, як паставіць Сафію на фота так, каб не было бачна ножкі, каторая карацейшая. Але я не ведаю, як падрыхтаваць яе да жыцця ў гэтым не заўсёды добрым свеце. Як навучыць любіць людзей, дарыць любоў і рабіць добрыя ўчынкі. Я не ведаю, як сказаць, каб яна пачула”.*

Адчай. Шматадчаю. Менавіта ў такім стане была Рыта на чарговым “сямейным савеце”. Галоўнае пытанне ўпершыню за апошнія гады не датычыла хваробы дачкі. Дзіма вярнуўся з рыбалкі з незвычайным “уловам”. У яго руках была кампактная воданепранікальная відэакамера. Не трэба было добра разбірацца ў тэхніцы, каб зразумець: рэч не з танных. “Загуглілі”. Як аказалася, “штуковіна” гэта каштуе не менш за паўтысячы долараў.

І што рабіць з такой знаходкай? Дзесьці ў глыбіні душы на імгненне ў кожнага прамільгнула ідэя: пакінуць сабе, прадаць, атрымаць такія неабходныя грошы. Але толькі на імгненне. Далей усе думкі былі накіраваны на пошук адказу на галоўнае пытанне: як знайсці гаспадара? Дасталі флэшкарты – і ўзрадаваліся. Відэаматэрыял захаваўся!



# вяртаецца!

Аказваецца, кампанія маладых людзей сплаўлялася на байдарках. Адзін з іх, гаспадар камеры, пад мостам "не справіўся з кіраваннем". Лодка перакулілася, і камера знікла пад вадой. Пакуль не села батарэйка, яна здымала ўсё, што адбывалася вакол, а пасля прыбілася да берага.

Гаспадара знайшлі па рэгістрацыйных нумарах машыны, якая ў пачатку відэа трапіла ў кадр. Дзіма, а менавіта так яго завуць, прыехаў у Паставы з Мінска ў той жа дзень. Як узрадаваўся: за мінулыя чатыры месяцы некалькі разоў выязджаў на пошукі камеры. Знайшоў толькі ... згублены такім жа, як і ён, "шчаслівычыкам" мабільны тэлефон, які без ваганняў вярнуў уладальніку.

Сталічны госць аказаўся вельмі цікавым чалавекам – кіраўніком партала "Veslo.by", падарожнікам з вялікім стажам, з якім можна было гадзінамі размаўляць на агульныя тэмы. Рыта з дзяцінства сплаўлялася ў трохтыднёвыя "туры" на плытах, Дзіма ведае многае, калі не ўсё, пра найбліжэйшыя ў акрузе рэкі. Доўга, доўга ў той вечар усе не маглі нагаварыцца.

Ад'язджаючы, вось такі выпадковы сябар паклаў на стол пяцьдзясят беларускіх рублёў.

– Я іх атрымаў у якасці ўзнагароды за знойдзены тэлефон. Перадаю вашай сям'і эстафету добрых спраў, – кінуў ён у адказ на нямыя пытанні на тварах Дзімы і Рыты.

Госць з'ехаў, але засталося пачуццё задавальнення ад таго, што ўсё ў гэтай сітуацыі зрабілі правільна. Дабро абавязкова вернецца!

Літаральна праз некалькі дзён Рыта знайшла ў паштовай скрыні паведамленне: на імя мужа прыйшла пасылка з Амерыкі. Але яна, мякка кажучы, не ўзрадавалася і ўжо была гатовая насварыцца на мужа, які нічога не падазраваў: як ён мог заказаць сабе штосьці за акіянам, калі ў сям'і на ўліку кожны рубель?

Пасылку пайшлі забіраць разам. Дзіма распакаваў яе непасрэдна на пошце і ... Шок! У яго ў руках былі спецыяльныя штаны для забродной рыбалкі. Ды ён пра іх і марыць не мог! Нават няновыя яны каштуюць вялікіх грошай (дарэчы, прыкладна столькі, колькі знойдзеная відэакамера).

Паштовыя паслугі – 80 долараў – аплаціў адпраўшчык. Дзіма доўга не мог зразумець, дзе тут пастка. А яе і не было. Сваяк Рыты на форуме беларусаў-рыбакоў, якія жывуць у Амерыцы, прачытаў аб'яву аднаго з удзельнікаў: маўляў, падару свае боты, пакідайце заяўкі, сам выберу новага гаспадара. Сваяк адкрыта напісаў пра Дзіму, пра яго хворую дачку і фінансавую сітуацыю ў сям'і.

Такім чынам пасылка прыйшла ў Паставы. А разам з ёй і навіна пра тое, што гэты шчодры амерыканец гатовы падключыцца да збору сродкаў на чарговую рэабілітацыю.

*"За пяць гадоў сотні людзей былі з намі побач. Прайшлі "праверку" сябры і блізкія, з'явіліся людзі, якіх ты нават не ведаеш асабіста, але чыя прысутнасць заўсёды адчуваецца. Прыйшла ўпэўненасць, што ты дакладна не адзін ... А таксама разуменне, што ўсё гэта адбываецца зусім невыпадкова і што ў Бога на ўсё свае планы ..."*, — надрукавала Рыта ў сваім агульнадаступным інтэрнэт-дзённіку.

На гэтым марафон добрых спраў не скончыўся. У пачатку восені Дзіма – гаспадар знойдзенай камеры – па сваёй ініцыятыве арганізаваў дабрачынны сплаў на байдарках. Удзел у ім быў платным, і ўсе сабраныя сродкі пералічылі на лячэнне Сафіі. Сярод удзельнікаў былі і сябры сям'і, якія "па-партызанску" гэта замоўчвалі. Аднак у асноўным падтрымалі абсалютна незнаёмыя людзі. Сярод іх была нават маленькая дзяўчынка са сваім бацькам, які, напэўна, такім чынам вырашыў даць малой першыя ў жыцці ўрокі дабрыні.

Пасля завяршэння сплаву арганізатары даслалі Рыце відэасправаздачу. "СА-ФІ-Я, будзь здаровая!" – крычалі пашыхтаваныя ў адзін шэраг байдарачнікі. Убачыўшы гэта, Рыта расплакалася... Не. Загаласіла.

Хвароба дачкі даўно сфармавала жыццёвыя правілы. Галоўныя ў свеце рэчы не рэчы. На першым месцы – дабрыня і міласэрнасць. Як лёгка аддаваць, дзяліцца, дарыць камусьці ўсмешкі і, што самае важнае, веру ў людзей!

Частка сабраных падчас сплаву грошай Рыта і Дзіма пералічылі двум хлопчыкам, якія працяглы час змагаюцца з анкалогіяй і ДЦП. Марафон добрых спраў працягваецца.

"Бог дапамагае рукамі людзей ..." Рыта адкрывае ноўтбук і менавіта з гэтых слоў пачынае пісаць чарговую нататку. Яна хоча, каб як мага большая колькасць яе сяброў даведалася і паверыла ў тое, што дабро сапраўды вяртаецца ...



**P.S.** У гэтай гісторыі няма ніводнага выдуманага факта. Яе галоўная гераіня – мама дзвюх дачок з горада Паставы Рыта Шылей, якая з мужам Дзмітрыем вось ужо больш за пяць гадоў змагаецца з цяжкім захворваннем малодшанькай Сафіі.

Вясной для дзяўчынкі запланаваныя два курсы рэабілітацыі. Першы – у сакавіку ў Варшаве. Яго кошт для сям'і велізарны – каля 8100 долараў. Збор сродкаў для паездкі працягваецца.

У маі Соню чакае паездка ў Маскву. Рэабілітацыя коштам 157 тысяч расійскіх рублёў будзе бясплатнай. А ўсё дзякуючы другому месцу на фотаконкурсе "Падзяліся цяплом". Яго ў ліпені мінулага года арганізаваў расійскі дабрачынны фонд "Адэлі" пры падтрымцы найбуйнейшага цэнтра, які займаецца рэабілітацыяй дзяцей са складанымі неўралагічнымі захворваннямі і ДЦП. У адкрытым на сайце народным галасаванні Соніна фатаграфія, зробленая і адпраўленая мамай, набрала больш за дзевяць тысяч лайкаў. Гэтая гісторыя яшчэ раз пацвярджае: маленькім добрым справам пад сілу стварыць адзін вялікі цуд...



## Реквизиты и контакты для помощи в лечении Шилей Софии

**Благотворительные счета** открыты в центре банковских услуг №230 ОАО "Беларусбанк" г. Поставы, ул. Юбилейная, 2а; УНП300230580, МФ0150801648

**Бел. рубли IBAN:** BY10 AKBB 3134 0000 0534 8232 0230 код AKBBBY21216
**Евро IBAN:** BY77 AKBB 3134 0000 0535 0232 0230 код AKBBBY21216
**Доллары США IBAN:** BY70 AKBB 3134 0000 0534 4232 0230 код AKBBBY21216
**Рос. рубли IBAN:** BY40 AKBB 3134 0000 0534 6232 0230 код AKBBBY21216
**Назначение платежа:** для зачисления на благотворительный счёт Шилей Риты Владимировны для лечения Шилей Софии Дмитриевны

**Благотворительный номер МТС:** +375 33 612 04 44 (просто пополнить баланс)
**Карта МТБанк:** 5351 0410 7875 9378 до 04/19 оформлена на Шилей Р.
**Карта Беларусбанк:** 4255 1900 5502 8925 до 08/18 оформлена на Шилей Р.
**PayPal** shileyrita@gmail.com
**Карта Сбербанк:** 4276 3801 4720 3744 до 09/20 оформлена на Пясецкая Н.
**Киви кошелек:** +7 92 66 99 05 28
**Почтовые переводы:** г. Поставы, ул. Юбилейная, д. 23 кв. 35 индекс 211875
**Контакты:** +375297197055 – мама Рита
+375295113577 – папа Дима

# У Росіцы ўшанавалі памяць бласлаўлёных Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры

**Урачыстасці з гэтай нагоды адбыліся ў суботу, 17 лютага.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



У іх прынялі ўдзел святары, манахіні, вернікі з усёй Віцебскай дыяцэзіі, а таксама госці з Мінска, Барысава, іншых беларускіх гарадоў і вёсак. Да гэтай падзеі было прымеркаванае агульнадыяцэзіяльнае спатканне святароў і кансэкраваных асобаў.

Пробашч парафіі Святой Тройцы ў Росіцы айцец Часлаў Курэчка з самага ранку сустракаў гасцей перад уваходам у святыню. Кожнага пілігрыма ён вітаў як самага дарагога госця, для кожнага знаходзіў некалькі добрых слоў.

Урачыстая святая Імша распачалася а дванаццатай гадзіне. Яе ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Напачатку ён падзякаваў вернікам за прысутнасць і заклікаў усіх умацоўвацца ў сваёй веры, беручы прыклад са святароў Антонія Ляшчэвіча і Юрыя Кашыры. Яны мелі магчымасць ўратаваць сваё жыццё, але засталіся разам са сваімі вернікамі і разам з імі прынялі пакутніцкую смерць у агні. Гэтыя святары мелі Бога ў сваім сэрцы і да канца верылі, што Бог падтрымлівае чалавека нават у самыя цяжкія хвіліны.

Іерарх перадаў таксама прывітанне ўсім вернікам ад Папы Францішка, з якім біскупы сустракаліся падчас нядаўнай паездкі ў Рым.

У сваёй гаміліі ардынарый падкрэсліў прыклад бласлаўлёных росіцкіх пакутнікаў. Ён яшчэ раз засяродзіў увагу святароў і вернікаў на тым, што Бог не пакідае таго, хто на Яго спадзяецца. Айцы Антоні і Юры не шукалі ў цяжкай сітуацыі карысці для сябе, не ратавалі свае жыцці, а падтрымалі людзей, што былі перад абліччам смерці, сваім асабістым прыкладам. І ў гэтым каштоўнасць іх ахвяры.

Іерарх падкрэсліў, што ніводзін добры ўчынак не застаецца незаўважаны Богам. І таму няхай заступніцтва росіцкіх пакутнікаў вядзе нас па гэтым жыцці, жыцці з Богам і ў імя Бога.

Напрыканцы набажэнства святары і вернікі з запаленымі свечкамі прайшлі працэсіяй ад касцёла да месца пакутніцкай смерці, дзе зараз усталяваны крыж і зроблены прыгожы мемарыял. Там людзі памаліліся за душы памерлых святароў і жыхароў Росіцы, атрымалі бласлаўленне ад біскупа Алега, а пасля кожны мог ушанаваць крыж і паставіць каля яго зніч у памяць бязвінных ахвяраў.

Пасля гэтага апякун Росіцкага санктуарыя запрасіў усіх на поліўку і гарбату ў новы Дом пілігрыма, які перабудаваны з былога дзіцячага садка. Перад абедам гэты Дом асвяціў біскуп Алег Буткевіч. А айцец Часлаў запрасіў усіх на сустрэчу ў Росіцу 11 мая, калі будуць цвісці магноліі і цюльпаны.

***

Нагадаем, у лютым 1943 года карнікі праводзілі аперацыю пад назвай "Зімовы цуд". У гэтай аперацыі ўдзельнічалі сем латвійскіх батальёнаў, адна ўкраінская і адна літоўская роты СС, якія былі на службе ў гітлераўцаў. Падчас аперацыі карнікі сагналі жыхароў Росіцы ў касцёл, частку адправілі ў канцлагеры або на прымусовыя работы, а астатніх загналі ў стайню і спалілі. У тыя дні ў агні загінула амаль паўтары тысячы жыхароў Росіцы. Разам з людзьмі былі святары Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра. Карнікі хацелі захаваць ім жыццё, але святары адмовіліся пакідаць сваіх парафіянаў і прынялі разам з імі мучаніцкую смерць.

Пасля вайны Росіца была адноўленая, на месцы пакутніцкай смерці людзей усталявалі крыж. Але былых жыхароў у Росіцы засталося не так шмат, тут пасяліліся іншыя людзі, таму месца гібелі людзей паступова прыйшло ў заняпад. Яно зарасло кустамі, людзі навязвалі там жывёлу.

Аднаўляць гэтае месца пачалі ўжо ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, калі сюды прыехаў каталіцкі святар ксёндз Антоні Лось. Тады тут людзі ўсталявалі новы крыж.

Ксёндз Вячаслаў Пялінак успамінае, што калі прыехаў сюды ў 1999 годзе, то месца гэта было яшчэ занядбанае. Калі ён прыйшоў сюды памаліцца, то пабачыў цялят і авечак, што былі навязаныя на месцы пакутніцкай смерці людзей. "Першая думка, якая прыйшла мне ў галаву, – успамінае ксёндз Вячаслаў, – такая нацыя ніколі не зможа жыць шчаслівa, пакуль будзе навязваць на магілах сваіх продкаў жывёлу".

Каб навесці тут парадак, трэба было зрабіць дакументы на тэрыторыю, а гэта сустракала непаразуменне мясцовай улады. Але потым у раёне змянілася кіраўніцтва, дазвол быў атрыманы і ўжо ў 2000-ым годзе тут адбылася першая пілігрымка. З таго часу двойчы на год, у лютым і жніўні, у Росіцы збіраюцца вернікі, каб ушанаваць памяць пра тую трагедыю.

Спадзяёмся, што гэта месца больш не будзе стаяць занядбаным, а будзе нам нагадваць, як важна жыць у любові адно з адным і захоўваць мір на нашай зямлі.



# Пхёнчхан: польскія алімпійцы на святой Імшы ў Папяльцовую сераду



**Польскія спартсмены, якія ўдзельнічаюць у зімовых Алімпійскіх гульнях у карэйскім горадзе Пхёнчхан, прынялі ўдзел у святой Імшы ў Папяльцовую сераду.**

Яе адправіў біскуп Мар'ян Флёрчык, дэлегат епіскапату Польшчы па пытаннях пастырства спартсменаў. У Вялікі пост "алімпійская сям'я" ўвайшла на восем гадзін раней за сваіх землякоў.

14 лютага былі адпраўлены святая Імша для заўзятараў і гасцей і дзве Імшы для спартсменаў. У Эўхарыстыі прыняў удзел міністр спорту і турызму Польшчы Вітольд Лазенка.

У нядзелю, 11 лютага, нацыянальны душпастыр спартсменаў а. Эдвард Плень SDB апублікаваў у сваім акаўнце ў Фэйсбуку фота са святой Імшы.

"11 лютага 2018 у алімпійскіх вёсках у Пхёнчхане і Канныне былі адпраўлены святыя Імшы, – напісаў а. Эдвард. – Я вельмі рады, што магу ў гэты час знаходзіцца са спартсменамі", – адзначыў ён.

– З боку спорту мой уплыў на вынікі – мізэрны ці нават зусім ніякі. Мой унёсак больш чалавечы, духоўны: удзельнікаў гульняў і трэнераў я атуляю малітвай. Відавочна, мы шмат размаўляем. Дадаваць пазітыўны настрой, чэрпаць сілы з іншай рэчаіснасці вельмі важна. Я асабіста ўжо высока цаню гэтыя мае задачы і рады, што магу быць на чарговых гульнях і выконваць функцыю духоўнай падтрымкі.

*пераклад catholicnews.by з сайта aleteia.org*

*фота са старонкі ў Facebook*

# Як ставіцца да бласлаўлення жывёл?

***“Хвала Хрысту! 17 студзеня ва ўрачыстасць з нагоды дня памяці святога Антонія бласлаўляюць жывёл. Адкуль узялася гэта традыцыя і якое яна мае значэнне? І як выглядае з гэтым справа ў Беларусі? Як да гэтага ставіцца? Я асабіста з такой практыкай у Беларусі не сустракаўся”.***
*Ілля*

**На пытанне адказвае айцец Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала навекі! Такая практыка больш распаўсюджаная ў Іспаніі і Італіі, але гэта не азначае, што яна ўвогуле не існуе ў Каталіцкім Касцёле ў Беларусі. Звычай бласлаўляць хатніх жывёл і птушак існуе са старажытнасці, і таму Касцёл мае такую практыку, якая дзесьці болей, а дзесьці меней распаўсюджаная. У Святым Пісанні можам знайсці тэксты, якія кажуць нам пра стварэнне Богам усяго жывога: і як жа гэта усё цудоўна ў вачах Пана (напр.: Быц 1,1.20-29; Пс 8,4-5.7b-9). Сам Пан Езус кажа сваім вучням, што Айцец не перастае клапаціцца пра тое, што сам стварыў: *“Не турбуйцеся аб жыцці вашым, што есці і што піць, ні аб целе вашым, у што апранацца. Ці ж не большае жыццё за ежу, а цела за вопратку? Паглядзіце на птушак нябесных: яны не сеюць, ні жнуць, ні збіраюць у засекі, і Айцец ваш Нябесны корміць іх. Ці ж Вы не больш вартыя за іх?”* (Мц 6,25-28). Пан Бог стварыў чалавека і даручыў яму адказнасць за ўвесь свет, а таксама абвяшчаць хвалу Стваральніка.

Жывёла жыве разам з чалавекам на зямлі, і Пан Езус навучае, што праз птушак нябесных, якіх корміць Айцец, Ён дае нам знак свайго Айцоўскага Провіду. Менавіта Айцец ахвяраваў нам свайго Сына як Баранка і ўчыніў, што мы называемся і з'яўляемся Яго дзецьмі. Нават праз найменшае са сваіх стварэнняў Бог не перастае прыцягваць нас да таго, каб мы Яго любілі. Змест малітвы бласлаўлення жывёлы, якую ўзносіць да Бога святар, наступны: *“Божа, Ты ў сваёй мудрасці ўсё стварыў. Ты сфарміраваў чалавека паводле свайго вобразу і падабенства і абдараваў яго блаславенствам, каб быў добрым гаспадаром на зямлі. Узнясі сваю правіцу і блаславі гэтую жывёлу, каб усе мы, падтрыманыя Тваёй дапамогай у цяперашнім жыцці, з большым даверам імкнуліся ў жыццё вечнае. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн”.* Звычайна абрад бласлаўлення хатняй жывёлы адбываецца ва ўспамін св. Антонія, абата (17.01), св. Роха (16.08) і св. Францішка Асізскага (04.10). Між іншымі, св. Антоні, абат – гэта святы, да якога звярталіся асабліва падчас панавання заразы ці праказы. Ён захоўвае ад агню і ад хвароб жывёлу. Такі дзень сапраўды асаблівы, калі святар узносіць да Бога спецыяльную малітву, і падчас яе адбываецца бласлаўленне хатняй жывёлы, а потым яна акрапляецца св. вадой.

Св. Антоні – сябра Бога. І нас да гэтага заклікае, каб мы, клапоцячыся пра жывёлу і ахоўваючы яе, былі блізкімі Богу. Бо Ён, Які на зямлі стварыў жывёлу і клапоціцца пра ўвесь свет, нас сцеражэ сваім бласлаўленнем і заўсёды ахоўвае ў сваёй айцоўскай апецы.




# У Афрыцы з'явіўся касцёл, які “прыляцеў” з Польшчы

**Будаўніцтва святыні працягвалася з 2013 года. Увесь храм (акрамя мясцовай цэглы, цэменту і некаторых элементаў даху) быў фактычна прывезены з Польшчы. А менавіта ўсё абсталяванне, пачынаючы ад табэрнакулюма і алтара, і заканчваючы пакрыццём даху.**

Ксёндз Мечыслаў перасылаў дэталі для будаўніцтва касцёла самалётамі дзякуючы дапамозе Войска Польскага. Некаторыя часткі дастаўляліся марскім шляхам.

Кансэкрацыю касцёла святога Пятра ў Баганду (Цэнтральна-Афрыканская Рэспубліка) здзейсніў біскуп Гуеррына Перын. Гэты касцёл з'явіўся ў Афрыцы стараннямі парафіян з дыяцэзіі Тарнова і аддзела Папскіх спраў пашырэння веры.

На ўрачыстасць асвячэння, якая доўжылася чатыры гадзіны, прыбылі каля 1500 вернікаў. Некаторыя ішлі пешшу тры дні і пераадолелі больш за сто кіламетраў.

У святкаванні прынялі ўдзел таксама прадстаўнікі мясцовай улады і шматлікіх хрысціянскіх касцельных суполак, а таксама сектаў, якіх у Афрыцы сапраўды вялікая колькасць.

*пераклад catholicnews.by з сайта deon.pl*



# Цуды ў Бібліі

**Новы тэст “Каталіцкага Весніка” накіраваны на праверку Вашых ведаў пра цуды, што згадваюцца ў Бібліі.**

1 Колькі хлябоў і рыб было да таго, як Езус накарміў 5 тысяч чалавек?



**А.** Пяць хлябоў і дзве рыбы;
**Б.** Дзесяць хлябоў і пяць рыб;
**В.** Пяць хлябоў і пяць рыб.

2 Чыё адсечанае вуха вылечыў Езус?



**А.** Вуха апантанага;
**Б.** Вуха слугі першасвятара;
**В.** Вуха іншаземца Наамана.

3 Чыю цешчу ацаліў Езус?



**А.** Цешчу Пятра;
**Б.** Цешчу Паўла;
**В.** Цешчу Філіпа.

4 Каго не ўваскрашаў Езус?



**А.** Сына ўдавы з Наіна;
**Б.** Лазара;
**В.** Слугу з Бэтсаіды.

5 Дзе Езус ператварыў ваду ў віно?



**А.** У Кане Галілейскай;
**Б.** У Ерусаліме;
**В.** У Самарыі.

6 Колькі гадоў жанчына цярпела на крывацёк, пакуль Езус яе не аздаравіў?




**А.** 20
**Б.** 21
**В.** 12

7 Хто з вучняў спачатку ішоў па вадзе да Езуса, але потым спалохаўся, пачаў тануць? Тады Езус яго выратаваў.



**А.** Пётр;
**Б.** Тамаш,
**В.** Павел.

8 Колькі дзён Лазар быў у магіле да таго, як Езус уваскрасіў яго?



**А.** 4
**Б.** 9
**В.** 16

Правільныя адказы на тэст глядзі на стар. 16

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Ці ёсць Ваша парафія ў інтэрнэт-прасторы?

**У чарговым апытанні “Каталіцкага Весніка” чытачы адказалі, ці ёсць іх парафія ў нтэрнэт-прасторы”?**

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:**

- так, парафія мае свой сайт – 103 адказы;
- парафіі няма ў інтэрнэце – 78 адказаў;
- парафія ёсць у сацыяльных сетках (УКантакце, Facebook, Аднакласнікі, Twitter і г.д) – 73 адказы;
- ёсць і сайт, і акаўнт або суполка ў сацыяльных сетках – 43 адказы.

**Усяго – 297 адказаў.**



*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Каляндар на сакавік

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа.**

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Паходзіў з дому і роду цара Давіда. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці. Святы Айцец Пій IX у 1871 годзе абвясціў святога Юзафа галоўным апекуном усяго Каталіцкага Касцёла. У гэты дзень удзел у св. Імшы з'яўляецца абавязковым.

**25 сакавіка – Пальмовая нядзеля.**

У гэтую нядзелю ў знак ушанавання і памяці пра трыумф Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад Ерусалім асвячаюцца галінкі вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі.

**29 сакавіка – Вялікі Чацвер.**

У Вялікі Чацвер адбылася Тайная – Апошняя – Вячэра Езуса Хрыста са сваімі вучнямі – апосталамі. Падчас святой Імшы ў Вялікі Чацвер біскуп ці святар абмывае ногі дванаццаці вернікам у знак пакоры і любові да бліжняга, паўтараючы прыклад Хрыста, Які мыў ногі апосталам. Ад гэтага дня ў касцёле моўкнуць званы і званочкі, усе крыжы пакрываюцца фіялетавымі вэлюмамі, падчас святой Імшы гучаць толькі бразготкі замест званочкаў. Гэта таксама дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і святарства. Вернікі віншуюць сваіх святароў з днём святарства.

**30 сакавіка – Вялікая Пятніца.**

Гэта дзень скрухі і роздуму ўсяго хрысціянскага свету. Гэта адзіны дзень ва ўсім літургічным годзе, калі ў касцёлах не служыцца святая Імша, а толькі адбываюцца абрад ушанавання святога крыжа і адарацыя-пакланенне Найсвяцейшаму Сакраманту. У Вялікую Пятніцу захоўваецца строгі пост без мясных страў.

**31 сакавіка – Вялікая Субота.**

У гэты дзень працягваецца малітва вернікаў каля Грабніцы Езуса Хрыста. Таксама на працягу ўсяго дня ў касцёле асвячаюцца велікодныя стравы для святочнага стала. Пасля заходу сонца адбываецца ўрачыстая Пасхальная Вігілія, надзвычай прыгожая і вымоўная ў сваіх абрадах. Падчас яе асвячаецца агонь, пасхальная свечка, вада і спяваюцца велікодныя гімны.

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*





## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння наступных святароў і біскупаў:

**4 сакавіка** – імяніны адзначае **кс. Казімір Акушка** *(Плюсы)*;

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Зянон Шчонхар** *(Відзы)*;

**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява** *(Удзела)*;

**13 сакавіка – гадавіну абрання Папам адзначае Папа Рымскі Францішак;**

**17 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ігнат Санюта**;

**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч;**

**19 сакавіка** – імяніны адзначае **дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі;**

**28 сакавіка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Ідолта)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*



# Святы арцыбіскуп, які не хацеў быць ксяндзом

**Святы Турыбій з Монгравеха (1538-1606)**

**Цікава, як могуць радыкальна адрознівацца ў паводзінах і мысленні людзі аднаго пакалення, аднаго народа, які жывуць, здаецца, у тых самых умовах, вызнаюць, што не мала важна, тую самую веру.**

**■ айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Ён, Турыбій, быў дзіцём сваёй эпохі, атрымаў выдатнае выхаванне і адукацыю і стаў сімвалам супраціву ў Чылі. Яго праціўнікамі, а можна сказаць, ворагамі былі не чужынцы з індзейскіх плямёнаў, а менавіта землякі, іспанцы.

Гэта быў шок для тагачаснага грамадства: галоўным суддзёй інквізіцыі ў Гранадзе кароль Філіп II прызначыў менавіта Турыбія з Монгравеха. Здавалася б, чаму трэба сумнявацца, што гэта добрая кандыдатура? Ён са шляхецкага роду, атрымаў юрыдычную адукацыю ў Саламанцы, Каібры і Вальядалідзе, вызначаецца яснасцю розуму. Усё гэта не выклікала сумневаў, пытанне было ў іншым: як кароль на пасаду, якая зарэзерваваная за духоўнымі асобамі, прызначыў свецкага чалавека?

Пяць гадоў працы ў інквізіцыі толькі пацвердзілі, што кароль не памыліўся. Цяпер ён меў для Турыбія новае заданне: загадаў яму ехаць у Перу, у Ліму, і там стаць пастырам, біскупам мясцовага Касцёла. Тут шок перажыў ужо Турыбій, бо ён не збіраўся прымаць пасвячэнні і ніколі не думаў пра кар'еру духоўнага. Аднак яго просьбы, скіраваныя да караля, каб той змяніў сваё рашэнне, не былі прынятыя пад увагу.

У Ліме і ва ўсёй сваёй вялікай місійнай дыяцэзіі Турыбій праслужыў каля трыццаці гадоў. У гэты час вызначыўся напрамак развіцця Каталіцкага Касцёла для ўсёй Лацінскай Амерыкі. Як добры пастыр, ён візітаваў сваіх авечак нават у цяжка даступных месцах. Больш за тое, каб быць зразуметым і самому разумець іншых, вывучаў індзейскія дыялекты. Для патрэб мясцовых католікаў на двух дыялектах выдаў катэхізіс. Гэта была першая друкаваная мясцовая кніга!

Змяняючы Касцёл, Турыбій змяняў таксама і ўсё грамадства, бо заснаваў вялікую колькасць школ, прытулкаў для дзяцей і дарослых і іншых устаноў. Баронячы правы мясцовых плямёнаў, засцерагаў іх ад выкарыстання іспанскімі палітычнымі ўладамі. Не баяўся канфліктаваць з мясцовымі ўсемагутнымі губернатарамі.

Вельмі шмат намаганняў прыклаў ён для адукацыі духавенства, заснаваў першую ў Лацінскай Амерыцы духоўную семінарыю. Турыбій стараўся абудзіць у святароў дух салідарнасці з паствай, часта недавучанай, беднай, якую выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах каланізатары. Гэта была няпростая задача, паколькі духавенства па традыцыі трымалася тых, хто меў уладу.

# Беларусь у "святых" гербах: Ружаны

**Сёння ўжо толькі з іроніяй можна слухаць аповеды пра тое, што ў Беларусі быў свой Версаль.**

**■ айцец Андрэй Сідаровіч MIC**, *Росіца*

Так, яго рэшткі ўражваюць, будзяць уяўленне і прагу ўбачыць увесь ружанскі палацавы комплекс у яго велічы ў часы Льва Сапегі, але адначасова наганяюць сум і трывогу, што засталіся менавіта яны, рэшткі, руіны. Нязнішчаным, некранутым да нашых часоў дайшоў толькі герб Ружанаў.

Гэта дастаткова маладая мясцовасць (першы ўспамін у 1552 г.) свой росквіт перажыла ў часы, калі яе сваёй рэзідэнцыяй зрабілі магутныя Сапегі. Менавіта яны надалі мястэчку Магдэбурскае права ў 1637 г., а разам з ім таксама вельмі цікавы герб.

Гэты тып гербаў называюць "прамаўляльнымі". Элементы герба падказваюць, якая назва дадзенай мясцовасці. Такіх сімвалаў у Беларусі няшмат. Напрыклад, гэта гербы Ваўкавыска і Рагачова.



Ружы на гербе Ружанаў – гэта рэч неймаверна прыгожая і мала дзе сустраканая. Даследчыкі на сёння маюць прынамсі некалькі версій этымалогіі назвы мясцовасці, але не адна з іх не тлумачыць дакладна, чаму менавіта ружы сталі сімвалам горада.

Хоць кветкі і займаюць шмат месца на гербе, але цэнтральнай постаццю яго, безумоўна, з'яўляецца чалавек у нештодзённым, а каралеўскім адзенні. Чалавек гэты трымае ў руках незвычайныя атрыбуты ўлады – крыж і лілею. Німб над галавой падказвае, што гэта каралеўская асоба, якую абвясцілі святой. Загадкі тут ніякай няма: гэта княжыч Казімір, які стаў апекуном усяго Вялікага Княства Літоўскага, а таксама Ружанаў.

Святы Казімір адзначаўся слабым здароўем, праўдападобна хварэў на сухоты, ад якіх і памёр. Аднак ён быў чалавекам вялікай веры. Нястомна дапамагаў людзям, якія мелі патрэбы.

На адным з абразоў св. Казімір прадстаўлены з трыма рукамі. Легенда кажа, што мастак заўважыў непрапарцыянальнасць правай рукі і яе замаляваў, замяняючы новай. Але першая рука праявілася зноў з-пад фарбы! І ніякія далейшыя спробы яе схаваць не ўдаліся!





# Пытанне святару: жыццё без сакраманту шлюбу

*"Я і мае дзеці жылі ў Заходняй Беларусі. Ахрышчаныя з вялікай цяжкасцю, бо касцёл быў вельмі далёка. Але ж хацелася трымацца сваёй веры. А калі ў пачатку 90-х сталі адкрывацца касцёлы, дзеці мае пайшлі ўжо па свеце. Дачка выйшла замуж, муж яе быў нават не ахрышчаны. Унукаў пахрысцілі ў царкве. Касцёл тут адкрыўся толькі ў 2005-м годзе. Парафіяльная суполка малая, у нядзелю збіраецца 30-35 чалавек. Мая дачка не можа прыступаць да Камуніі, бо жыве без сакраманту шлюбу. Муж не хоча, хоць жывуць разам ужо 33 гады дружна, мяне забралі да сябе, даглядаюць. Дачка перастала хадзіць у касцёл, бо ёй сорамна сядзець як пракажонай, калі ўсе ідуць да споведзі і Камуніі. У праваслаўі не змушаюць вянчацца, а да споведзі і прычасця прымаюць. А Бог у нас адзін. Я так думаю, што можна знайсці нейкае выйсце ў дадзеным выпадку. У "Каталіцкім Весніку" святары часта адказваюць на пытанні. Спадзяюся, і я дачакаюся адказу".*

*Маргарыта-Ганна*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Шаноўная спадарыня Маргарыта-Ганна! Вялікі дзякуй Вам як за пытанне, так і за духоўны клопат маці і бабулі адносна сваёй сям'і! Менавіта ў Вашых словах заўважаецца любоў да сваіх родных не толькі ў зямным вымярэнні, але і адносна пытанняў веры.

### Выхаванне ў веры

Сям'я – гэта натуральнае асяроддзе ўзрастання чалавека. Святы Ян Павел ІІ у апостальскай адгартацыі, прысвечанай пытанням сужэнства і сям'і, напісаў, што ў сям'і дзіця пазнае і развівае свае магчымасці, набывае свядомасць уласнай годнасці і рыхтуецца да дарослага жыцця (пар. Familiaris consortio, 2,21). Папа заўважае, што менавіта бацькі з'яўляюцца першымі і галоўнымі выхавальнікамі сваіх дзяцей, якім яны далі жыццё. Істотным вымярэннем жыцця ў хрысціянскай сям'і ёсць выхаванне ў веры, якая ўзрастае ў атмасферы любові. Дарэчы, агульнавядома, што падмуркам усякага выхаваўчага працэсу ёсць любоў. Умовай паспяховасці развіцця веры трэба лічыць асабісты актыўны і аўтэнтычны ўдзел хрысціянскіх бацькоў у справах веры і жыцці Касцёла. У такой сям'і дзеці пазнаюць праўду пра Бога не толькі па катэхізісе, але разам з іншымі сямейнікамі паступова ўваходзяць у рэчаіснасць дзяцей Божых, аб'яднаных верай, надзеяй і любоўю ў супольнасці паўсюднага Касцёла. На жаль, былі ў гісторыі нашай краіны перыяд, калі далёка не ўсе мелі магчымасць свабодна вызнаваць і перакazваць веру. Тым большая павага і падзяка належыць старэйшаму пакаленню жанчын і мужчын, якія ў складаных умовах сталі жывым катэхізісам для сваіх дзяцей.

### Раны мінулых часоў

Хоць ад Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая распачала барацьбу з Богам і рэлігіяй, прайшло сто гадоў, і ўжо новае пакаленне людзей вырасла ў постсавецкім часе, вынікі дзесяцігоддзяў атэізму і раны мінулых часоў можна назіраць і сёння. Касцёл тут не выключэнне. Старэйшае пакаленне, якое хоць і ў складаных умовах, аднак вырасла ў атмасферы веры, перажывае за сваіх дзяцей і ўнукаў, якія часта не па сваёй віне і несвядома застаюцца сёння далёкімі ад Бога і Касцёла. Многія бацькі – сапраўдныя вернікі – імкнуцца неаднойчы са спазненнем, але і з любоўю прывесці сваіх родных да крыніцы ласкі – Езуса Хрыста, Пана і Адкупіцеля. Важным элементам гэтага працэсу з'яўляецца малітва не толькі сям'і, а і ўсёй супольнасці Касцёла ў інтэнцыі тых, хто яшчэ не спазнаў і не зразумеў, які добры ёсць Пан Бог. Менавіта ў год Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Фаціме Маці Божая прасіла пра гэтую малітву і перадала Божае абяцанне адносна яе моцы.

Складана сказаць, што стрымлівае нявернікаў або сучасных людзей, якія паходзяць з сем'яў вернікаў, але не з'яўляюцца самі вернікамі-практыкамі, зрабіць крок у напрамку Бога: хтосьці адчувае страх, хтосьці сорам, ёсць і тыя, хто не знайшоў адпаведнай падтрымкі з боку блізкіх. Колькі такіх людзей, столькі гісторый. Як у кожным жывым арганізме, так і ў сям'і патрэбна любоў, якая доўгацярплівая. Менавіта ў атмасферы любові можна дапамагчы чалавеку прыняць адпаведнае рашэнне адносна веры, шануючы заўсёды яго свабоду. Гэта датычыць таксама добрага імкнення бацькоў, каб іх дзеці адкрыліся на Бога і жылі згодна з навучаннем Касцёла, маліліся, прымалі ўдзел у набажэнствах, літургіі, прымалі сакраманты і г.д.

### Муж-нявернік асвячаецца праз жонку-верніцу

Спадарыня Маргарыта-Ганна, Вы расказваеце пра складаную сітуацыю сваёй дачкі, якая жыве без сакрамантальнага шлюбу па прычыне нежадання яе мужа ўзяць шлюб у касцёле. Падобныя выпадкі не рэдкасць у нашай краіне. Як вынікае, муж Вашай дачкі не быў ахрышчаны, калі яны 33 гады таму заключалі сужэнскі саюз. Такі стан рэчаў напаўняе болем пабожную жанчыну, якая пераехала жыць да сваіх дзяцей і атрымлівае ад іх неабходную дапамогу і любоў. У Святым Пісанні, у сёмым раздзеле Першага Паслання да Карынцянаў апісваюцца падобныя праблемы тых, хто прымаў хрост. На пачатку існавання Касцёла здаралася, што веру прымалі цэлыя сем'і, аднак бывала і так, што толькі адзін з сужэнцаў паверыў у Хрыста, а другі заставаўся нявернікам. Святы Апостал Павел заахвочвае новых хрысціянаў, якіх датычыла гэтая праблема, каб імкнуліся наладзіць годныя адносіны са сваёй другой паловай, каторая не верыць, і такім чынам захавалі сужэнства. Святы Павел бачыць вялікую моц сведчання пра веру і жыццё паводле яе правілаў, што можа прывесці няверніка да святасці (пар. 1 Кар, 7,14).

Канешне, можа здарыцца і так, што нявернік прывядзе верніка да страты веры. Спадзяёмся, аднак, што часцей вернік дапамагае сваёй другой палове прыйсці да Хрыста. Пра гэта молімся разам з Касцёлам, усведамляючы складанасць і далікатнасць матэрыі, якая патрабуе сведчання веры, малітвы і канкрэтнага дзеяння. Хоць часам можа здавацца, што ўжо нічога не атрымаецца. Тады варта звяртацца да Хрыста, Які сказаў: "У Бога ўсё магчымае" (Мц 19,26).

### Шлюб – сакрамант, які дае ласку

Езус узняў сужэнскі саюз да годнасці сакраманту, дзякуючы якому сужэнцы атрымліваюць шматлікія ласкі. Другі Ватыканскі Сабор у Дагматычнай Канстытуцыі навучае, што "хрысціянскія сужэнцы з прычыны сакраманту сужэнства, якім выражаюць таямніцу еднасці і плоднай любові паміж Хрыстом і Касцёлам і ўдзельнічаюць у ёй (пар. Эф 5, 32), падтрымліваюць адно аднаго ў супольным сужэнскім жыцці, а таксама ў нараджэнні і выхаванні патомства для дасягнення святасці і так, ва ўласцівым ім стане і парадку жыцця, маюць свой дар сярод Божага народу" (Lumen gentium, 11). Як кожны іншы сакрамант, сужэнства з'яўляецца бачным знакам нябачнай ласкі, якую Езус Хрыстус прагне шчодра ўдзяліць чальцам свайго Містычнага Цела. Рашэнне пра шлюб – гэта адказ на Божае пакліканне. Ён мае вартасць тады, калі здзяйсняецца свядома і добраахвотна, таму ніхто не можа прымусіць узяць шлюб.

Згодна з навучаннем і законамі Каталіцкага Касцёла, вернікам, якія жывуць у несакрамантальным шлюбе, не ўдзяляецца Святая Камунія. Супольнасць Касцёла пакутуе па гэтай прычыне разам з тымі, хто пазбаўлены эўхарыстычнай еднасці з Хрыстом і заступаецца за іх перад Богам, даручаючы іх Яго міласэрнасці.

Спадарыня Маргарыта-Ганна, Вы прагнеце нейкім чынам дапамагчы сваім дзецям і тым, чыя сітуацыя падобная.

> ***Каталіцкі Касцёл выходзіць насустрач сваім вернікам і ў асаблівых абставінах вызваляе ад захавання некаторых нормаў.***

У выпадку шлюбу здараецца, што хтосьці не хоча ісці ў касцёл, каб перад прысутнымі там браць шлюб, але гатовы зрабіць гэта ў сваёй хаце. Тады святар можа, з дазволу кампетэнтнай улады, блаславіць сужэнства па-за касцёлам. Калі ж нават такі варыянт нельга браць пад увагу, то магчыма, што ва ўзгаданай сітуацыі выйсцем для Вашых дачкі і зяця было б "аздараўленне ў корані" (па лаціне sanatio in radice), аднак з гэтым пытаннем Ваша дачка павінна звярнуцца да свайго пробашча, які ў сваю чаргу дзеля вырашэння пытання звернецца да біскупа.

На заканчэнне яшчэ адна заўвага. Калі хтосьці не можа поўнасцю ўдзельнічаць у жыцці Касцёла, то не павінен саромецца іншых вернікаў, але наколькі магчыма быць жывым чальцом парафіяльнай супольнасці. У рэшце рэшт найважнейшае не тое, што думаюць пра нас людзі, а якімі бачыць нас Сам Бог.

Шаноўная спадарыня Маргарыта-Ганна, спадзяюся, што справа, пра якую Вы пішаце, будзе паспяхова вырашана. Яшчэ раз дзякую Вам за Ваш клопат і сведчанне веры!



# Почему пост длится именно 40 дней?

**Задумывались ли вы когда-нибудь, почему Великий пост длится именно сорок дней? Почему не десять или пятьдесят?**

На первый взгляд, ответ лежит на поверхности: потому что Иисус постился в пустыне сорок дней. А почему Он избрал именно такое количество дней, не больше и не меньше?

Если мы обратимся к Ветхому Завету, то обнаружим, что Ной провел в ковчеге все те же сорок дней. Столько же дней был Моисей на горе Синай, когда получил скрижали Завета. Еще раз цифра "сорок" всплывает, когда мы вспоминаем, сколько лет евреи блуждали по пустыне.

Интересно будет отметить, что и беременность длится в большинстве случаев сорок недель.

Получается, что цифра "сорок" всегда связана с появлением чего-то нового, с рождением. В случае Ноя – это новое рождение мира. В случае Моисея – это рождение народа Завета. Для израильтян-кочевников начинался новый период не просто оседлого образа жизни, но свободного образа жизни на своей земле и в своей стране.

Почему Иисус постится сорок дней? Потому что в этот момент происходит рождение нового Израиля, примирившегося с Богом. Народа, у которого Закон написан в сердцах, а не на каменных скрижалях.

Здесь будет небезынтересным провести параллель между Иисусом и Моисеем. Когда Моисей уводил свой народ в пустыню, чтобы принести жертвы Богу, фараон был сильно этим недоволен. Он терял дешёвую рабочую силу. Когда Иисус начинает своё "освободительную миссию", так же появляется персонаж, который недоволен Его действиями.

С шестидесятых годов прошлого века стало модным утверждать, что никакого дьявола не существует, что это просто персонализация мирового зла и отрицательных качеств, живущих в каждом человеке. Смешные чертики с рогами и вилами наводнили мультфильмы и книжки. Сатана стал восприниматься как средневековый мифологический персонаж, не столько опасный, сколько забавный.

И такой подход не особенно вяжется с тем, что изложено в Писании. Ведь не зря же апостол Павел напоминает, что наша борьба не против крови и плоти. Как только мы перестаем воспринимать своего врага всерьез, перестаем понимать его цели и стратегию, мы начинаем нести потери.

Тактика дьявола проста и строится на трех "китах", которые мы видим в искушениях Христа в пустыне. "Темный властелин" начинает всегда с самого простого и понятного, с хлеба. Это – символ всего, что поддерживает наше физическое существование. Он стремится убедить нас, что удовлетворение наших материальных потребностей и является истинным смыслом и целью человеческой жизни. Борьба за процветание неотделима от жажды власти. И так приходит второе искушение. Стремясь возвыситься, мы довольно быстро забываем, что истинная власть – в служении. Мы ищем поклонения и славы, и тем самым затмеваем собой Бога. Мы словно бы отодвигаем Его на второй план, в массовку, которая призвана подчеркнуть наши достоинства и красоту нашей игры.

Иисус показывает нам, как выиграть в этом сложном борцовском поединке. Стремление к материальным благам не утоляет нашей духовной жажды, и мы ищем новых и новых удовольствий, не насыщаясь. Смиренное служение перламывает хребет гордыне и помогает нам обрести новые ценности в жизни. А благоговение перед Богом, поиск Его любви учит нас побеждать соблазнительные искушения магией и суевериями. Меч духовный, которым становится для нас Слово Божие, разит без промаха, вскрывая ложь врага рода человеческого.

Для чего нам нужны эти сорок дней поста? Для того, чтобы подобно мудрому военачальнику выстроить свой план и стратегию, чтобы увидеть в своих позициях слабые и сильные места. Молитва, пост, смиренное служение, чтение Священного Писания и Евхаристия – вот наше оружие. И если мы воспользуемся им разумно, то оно поможет нам не только отразить атаки противника, но и построить новый мир. Мир Духа. Направляющего наше сердце к свободе.

*ТАУ*

# Ці адзін Бог у католікаў і праваслаўных?

**Зусім нядаўна мы перажывалі Тыдзень малітваў за адзінства хрысціянаў. Адпаведныя набажэнствы ў межах гэтага Тыдня, на якіх за еднасць хрысціянаў разам маліліся католікі і праваслаўныя, а таксама прадстаўнікі іншых канфесій, прайшлі ў Мінску, Гродне і Магілёве, у іншых гарадах нашай краіны. Здаецца, ніхто і сумневаў не мае, што ва ўсіх у нас адзін Бог. Але што мы пад гэтым разумеем?**

## Захад і Усход: адна вера – дзве традыцыі

Беларусь – месца сустрэчы дзвюх вялікіх традыцый хрысціянства: Захаду і Усходу. Католікі і праваслаўныя здаўна жылі на нашай зямлі як браты: разам аралі зямлю, разам баранілі яе ад ворагаў, разам будавалі дамы, разам саджалі дрэвы, разам гадавалі дзяцей. У тыповым беларускім горадзе або мястэчку касцёл і царква зазвычай стаяць побач.

Падобнае працяглае суіснаванне не магло не адбіцца на нацыянальным менталітэце і ладзе жыцця беларусаў. Яго станоўчы ўплыў праявіўся перадусім ва ўласцівай нашаму народу рэлігійнай талерантнасці, у здольнасці да мірнага суіснавання з прадстаўнікамі іншых веравызнанняў і нават іншых рэлігій. З іншага боку, адсутнасць адзінства паміж прадстаўнікамі розных хрысціянскіх канфесій, відавочна, з'яўляецца адным з фактараў, што адмоўна паўплывалі на агульны духоўны стан насельніцтва Беларусі, якая ўваходзіць у лік дваццаці найменш рэлігійных краінаў свету.

Дык што ж агульнага паміж католікамі і праваслаўнымі і што нас падзяляе? У нас адна Біблія – Святое Пісанне Старога і Новага Запаветаў, адзін Сімвал веры (што праўда, з адзіным невялікім адрозненнем, аднак сёння багасловы абедзвюх канфесій не бачаць у гэтым праблемы), адзін хрост і іншыя сакраманты-таямніцы, а таксама шмат агульных святых – сведкаў веры першага тысячагоддзя хрысціянства.

Беручы пад увагу адметнасці рэлігійнага жыцця і ўнікальнасць канфесійнай сітуацыі ў Беларусі, што склалася ў выніку своеасаблівага гістарычнага развіцця нашай краіны, становіцца відавочна, што праблема адзінства хрысціянаў не можа не хваляваць вернікаў як мясцовых супольнасцяў Каталіцкага Касцёла, так і Беларускай Праваслаўнай Царквы.

## Што мы ведаем адно пра аднаго?

На жаль, у постсавецкай Беларусі сярод шырокіх колаў насельніцтва мы назіраем вялікую рэлігійную недукаванасць і абыякавасць. "Часта недахоп асноўных ведаў <...> з'яўляецца прычынаю многіх канфліктаў і непаразуменняў у адносінах паміж Касцёламі і іншымі рэлігійнымі супольнасцямі" *(Пар. Dudik A. "Sytuacja wyznaniowa i ekumeniczna na Białorusi w latach 1988–2003". Sandomierz 2007., ss. 194–195)*. "Праз тое, што ў савецкі перыяд праводзілася атэістычная прапаганда, вернікі не маглі ў поўным аб'ёме рэалізаваць свае правы на рэлігійную адукацыю. Акрамя таго, існаваў пэўны інфармацыйны вакуум адносна рэлігіі" *(Е. Прокошина. "Свобода совести – декларация и реализация" [у:] М. Цвилик (сост.). "Вопросы свободы совести и религиозных организаций в Республике Беларусь. Сборник документов и материалов". Минск 2005, с. 281)*.

У выніку сёння нават сярод тых, хто лічыць сябе вернікам тойці іншай канфесіі, большасць не ведае, чым яны насамрэч адрозніваюцца, а таксама людзі не маюць ніякага ўяўлення пра сутнасць адзінства хрысціянаў, што стварае выдатную глебу для распаўсюджвання разнастайных скажэнняў і неаб'ектыўнасці.

На Сінодзе Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій, які праходзіў у 1996–2000 гг., канстатавалася, што Каталіцкі Касцёл "часам называюць сектай" *("Экуменізм на Беларусі. Пасля II Ватыканскага Сабору" [у:] "Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі. Сінадальныя матэрыялы", № 15. Мінск–Пінск, 2000, с. 19.)*. Нават у шырокіх колах простых людзей да гэтага часу распаўсюджаны міф адносна таго, што праваслаўны і хрысціянін – гэта тоесныя паняцці, а католікі як быццам ужо "штосьці іншае". Таму крайне эксцэнтрычнае выказванне героя славутага рамана класіка сусветнай літаратуры Фёдара Дастаеўскага "Ідыёт" князя Мышкіна адносна таго, што "каталіцтва – усё адно, што вера нехрысціянская" *(Гл. Ф. Достоевский. "Идиот", Москва 2005, сс. 578–579.)* дзіўным чынам чамусьці атрымала даволі шырокае распаўсюджанне ў ментальнасці малаадукаванага ў рэлігійных пытаннях насельніцтва постсавецкай Беларусі.

Гэты недарэчны міф мае своеасаблівы працяг у шырока распаўсюджаным памылковым перакананні наконт уяўнага адрознення паміж католікамі і праваслаўнымі, якое нібы заключаецца ў тым, што праваслаўныя "больш ушаноўваюць Езуса Хрыста, а католікі – Марыю", і ў сувязі з гэтым як быццам "галоўным святам для праваслаўных з'яўляецца Пасха, а для католікаў – Божае Нараджэнне", хоць насамрэч гэта не так.

Але ж такіх і падобных памылковых перакананняў у народзе распаўсюджана вельмі шмат, што сведчыць пра неабходнасць шырокай хрысціянскай асветніцкай дзейнасці, якая будзе значна больш эфектыўнай, калі стане плёнам супрацоўніцтва прадстаўнікоў абедзвюх асноўных беларускіх канфесій.

## Духоўная прычына падзелу

На згаданым вышэй Сінодзе было адзначана, што "прычыны канфлікту знаходзяцца перадусім у неўпарадкаванай духоўнай сферы, бо існуе пэўнае скажэнне пазіцый абодвух бакоў, якое не дазваляе па-сапраўднаму ацаніць і мінулае, і сучаснасць". Духоўная нясталасць не дае нам належным чынам паглядзець на Касцёл і Царкву "з пункту гледжання еднасці і адрозненняў, якія, на жаль, часта лічыліся і лічацца прычынамі падзелу". Пры гэтым айцы Сіноду з усёй рашучасцю падкрэслілі, што ніякае, нават самае дрэннае мінулае не апраўдвае пазіцыі хрысціянаў, каторыя не жадаюць адзінства *(Пар. "Экуменізм на Беларусі. Пасля II Ватыканскага Сабору" [у:] "Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі. Сінадальныя матэрыялы", №15. Мінск–Пінск 2000 с. 22.)*.

## Як было ў мінулым…

У XIX ст. у Рускай Праваслаўнай Царкве існавалі два падыходы да заходніх хрысціянаў. Першы, найбольш радыкальны, яскравым прадстаўніком якога быў публіцыст славянафільскага кірунку Аляксей Хамякоў († 1860), падзяляў тагачасную пазіцыю грэцкай Царквы і цалкам адкідаў Каталіцкі Касцёл.

Другі ж, якога прытрымлівалася большая колькасць багасловаў разам з кіраўніцтвам Царквы, у тым ліку з вядомым царкоўным дзеячам Мітрапалітам Маскоўскім Філарэтам (Драздовым, † 1867), а таксама Кіеўскім Мітрапалітам Платонам (Гарадзецкім, † 1891), заключаўся ў нязгодзе з грэкамі і той меншасцю, да якой належаў Хамякоў. Так, мітрапаліт Філарэт прытрымліваўся меркавання, што Усходняя Царква і Заходні Касцёл – ад Бога, паколькі і першая, і другі адпавядаюць крытэрыю праўдзівасці, пададзенаму ў Першым пасланні св. апостала Яна *(гл. 1 Ян 1, 2–3)*, і вызнаюць уцелаўлёнага Хрыста, а мітрапаліт Платон з'яўляецца аўтарам вядомай метафары, што муры паміж Царквой і Касцёлам не дасягаюць неба *(Пар. А. Юдин. "Исторические этапы взаимных отношений Церквей Востока и Запада" [у:] А. Юдин (сост.). "Православие и католичество: от конфронтации к диалогу". Москва 2001, с. 73)*.

## …і як цяпер?

Сёння праваслаўнае веравучэнне кажа:

"Царква – паўсюдная, універсальная таму, што Хрыстус і Яго вучэнне скіраваныя не да нейкага аднаго народа і не да нейкай адной эпохі ці культуры, а да ўсіх эпохаў. Мы пра гэта часта забываемся, звужаем Царкву і хрысціянства да свайго народа, робім з яе штосьці вузкае, правінцыйнае, частковае". *(Пар. Артемий, епископ Гродненский и Волковысский (сост.). "Введение в православное богословие". Минск 2010, сс. 227–228.)*.

Паводле вядомага сучаснага багаслова і іерарха Рускай Праваслаўнай Царквы арцыбіскупа Валагодскага і Вялікаўсцюжскага Міхаіла (Мудзьюгіна, † 2000 г.), "Слова Божае дае шматлікія падставы для ўзаемнага прызнання хрысціянаў, нават тых, якія па-рознаму разумеюць асобныя пытанні веравучэння, але адзіныя ў галоўным. Мы знаходзім у апостальскіх пісаннях шмат указанняў на тыя ўмовы, пры якіх хрысціянін можа і павінен лічыцца сапраўдным і паўнапраўным чальцом Хрыстовай Царквы, каторая збаў-ляецца". Так, Ян Багаслоў, любімы вучань Хрыста, абвяшчае: „Хто будзе вызнаваць, што Езус ёсць Сын Божы, у тым трывае Бог, і ён – у Богу" *(1 Ян 4, 15)*. У тым самым раздзеле гэтага ж паслання ён дае настаўленне: „Па гэтым пазнаеце Духа Божага: кожны дух, які вызнае, што Езус Хрыстус прыйшоў у целе, ёсць ад Бога, а кожны дух, які не вызнае Езуса, не ёсць ад Бога, але гэта дух антыхрыста" *(1 Ян 4, 2–3)*.

"З Янам згаджаецца вялікі настаўнік народаў святы апостал Павел: „Ніхто, хто гаворыць у Духу Божым, не скажа анафемы на Езуса, і ніхто не можа назваць Езуса Панам, як толькі ў Духу Святым" *(1 Кар 12, 3)*, а таму, як мы бачылі ўжо ў вышэй пададзеным тэксце, для збаўлення дастаткова, калі хтосьці вуснамі вызнае Езуса Хрыста Панам, а сэрцам верыць у Яго ўваскрасенне *(пар. Рым 10, 9)*.

Такім чынам, у адпаведнасці з апостальскім вучэннем, сугрмадзянінам святых і чальцом сям'і Божай *(пар. Эф 2, 19)* з'яўляецца кожны, хто верыць у Хрыста як у Сына Божага, Які прыйшоў у целе і перамог смерць у сваім уваскрасенні, кожны, хто вызнае гэтую веру як падставу свайго жыцця *(пар. 1 Кар 3, 11)*.

Калі ж у такім чалавеку, у адпаведнасці са сцвярджэннем апостала Яна, трывае Бог, і ён – у Богу, дык адмаўляць прыналежнасць такога хрысціяніна да тых, хто збаўляецца, гэта значыць да сапраўднай Царквы – Цела Хрыстовага *(пар. Клс 1, 18)*, азначае цалкам не зважаць на Слова Божае, лічыць яго за нішто і замест яго кіравацца традыцыйнаю канфесійнаю пыхаю, якая, як і кожная пыха, з'яўляецца грахом і не мае нічога агульнага з духам Хрыстовай любові" *(Гл. М. Мудьюгин, архиепископ. "Единение в разобщённости: "Символ" 1994, № 49, сс. 19–20.)*.

## Крокі насустрач адно аднаму

За апошняе стагоддзе католікамі і праваслаўнымі былі зробленыя вельмі важныя крокі насустрач адно аднаму. Так, 7 снежня 1965 г. перад самым заканчэннем Другога Ватыканскага Сабору Папа Павел VI († 1978) і сусветны патрыярх Афінагор I разам з яго сінодам далі агульнае тлумачэнне, у якім выказалі шкадаванне з прычыны "тых засмучальных словаў, беспадстаўных папрокаў і ганебных учынкаў", якія пасля "сумных падзеяў" адлучэння 1054 г. "паўплывалі на абодва бакі і праследавалі іх у далейшым". Яны выказалі жаданне, каб адлучэнне "сцёрлася з памяці Касцёла і з яго асяроддзя і было назаўсёды забытае". Акрамя таго, у маі 2001 г. св. Ян Павел II, знаходзячыся з візітам у Афінах, папрасіў прабачэння за здзейсненыя крыжакамі ў 1204 г. захоп і разрабаванне Канстанцінопаля *(Гл. Каспер В. "Праваслаўе і Каталіцкі Касцёл", "Наша вера" 23, 2003, № 1, с. 10)*. Такім чынам, былі перагорнуты самыя змрочныя старонкі гісторыі падзелу хрысціянаў Усходу і Захаду і адкрыліся новыя перспектывы для пошукаў адзінства ў разнастайнасці.→



## Пахвалёны Езус Хрыстус! Віншуем біскупа Алега Буткевіча!

***Ваша Эксцэленцыя! Парафіяне капліцы Святога Юзафа ў аграгарадку Друйск Браслаўскага раёна дасылаюць пяшчотныя словы віншавання і вялікай удзячнасці Вам, паважаны біскуп Алег, з нагоды імянінаў (26 лютага)!***

*Жадаем Вам шмат Божых ласкаў, моцнага здароўя, патрэбных сіл для выканання пастырскага і біскупскага служэння, дароў мудрасці, розуму, мужнасці. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Панна Марыя нястомна моліцца за Вас перад Божым тронам і прытуляе да сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця. Усе парафіяне капліцы былі шчаслівыя бачыць Вас, слухаць Божае слова, праз якое Вашымі вуснамі Пан Бог прамаўляў да нас.*

*Няхай добры Бог блаславіць Вашых бацькоў, якія далі Вам жыццё і выхавалі для нас цудоўнага біскупа! Мы вельмі ганарымся, што біскуп Алег наш зямляк, з нашай сінявокай Браслаўшчыны!*

### Хвала Хрысту!

*10 лютага адзначае Дзень нараджэння наш зямляк і гонар нашай парафіі* ***ксёндз Аляксей Асон****.*

*Шчыра віншуем ксяндза Аляксея! Зычым падтрымкі Маці Божай на святарскім шляху і ўсіх дароў Духа Святога!*

***Ад імя вернікаў парафіі Святога Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава, Вольга Пяткевіч***

### Віншуем!

*Дасылаем шчырыя віншаванні нашаму* ***пробашчу Крыштафу Мянкіну*** *з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 22 лютага!*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз-пробашч, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога! Мы ўдзячныя Богу за ласку маліцца разам з Вамі, чуць ад Вас Божае слова. Дзякуем Вам за аптымізм, за глыбокую веру, за ахвярную працу на карысць Касцёла і парафіі, за ўвагу і цярпенне да кожнага з нас.*

***З павагай, вернікі парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах***

### Віншуем!

*Віншуем з Днём нараджэння (16 лютага)* ***айца Віктара Бурлаку****, кусташа Нацыянальнага санктуарыя Маці Божай у Будславе!*

*Божай падтрымкі ва ўсіх справах Вам, наш паважаны, добразычлівы і чулы айцец Віктар! Шчырых і ветлівых людзей на Вашым шляху, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак! Жадаем поспехаў у душпастырскай працы, Божай ласкі, добрага здароўя, радасных хвілін у жыцці, прыгожага і багатага плёну ва ўсіх задумках!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, вернікі Будслаўскай парафіі Унебаўзяцця НПМ з вёсак Яцкавічы, Ілава, Забегі, Петрачкі***

### Хвала Хрысту!

*20 лютага святкуе Дзень нараджэння наш былы пробашч,* ***ксёндз Андрэй Яркавец****.*

*Сардэчна віншуем Вас, паважаны ксёндз Андрэй! Выказваем вялікую малітоўную падзяку за ахвярную працу ў нашай парафіі! Не злічыць усяго, што зроблена Вамі за гады служэння. Загучаў арган, які доўгія гады маўчаў, адрамантаваныя званы зноў заклікаюць вернікаў на святую Імшу. Тэрыторыю вакол касцёла ўпрыгожваюць туі і іншыя дэкаратыўныя дрэўцы і расліны. А які магутны крыж усталяваны каля святыні! І шмат крыжоў у вёсках, на могілках! Адрамантавана капліца фундатараў касцёла на могілках у вёсцы Малашкі да 100-годдзя нашага касцёла.*

*Мы памятаем Вашу дабрыню, чулыя адносіны, змястоўныя казанні, памятаем Вас у штодзённых малітвах. Жадаем Вам плёну на святарскім шляху, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сілаў, заўсёднай усмешкі на Вашым твары!*

*Вялікая падзяка за сына-святара маці – пані Леакадзіі, а бацьку, пану Францішку, – светлая памяць.*

*Няхай добры Божа дапаможа Вам, ойча, і вернікам касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ у горадзе Бабруйску, каб як найхутчэй святыня займела свой першапачатковы выгляд, каб вернікі, жыхары горада і госці зноў пабачылі прыгожую архітэктуру святыні, якая пакуль схаваная гандлёвымі прыбудовамі.*

***З павагаю, вернікі парафіі Унебаўзяцця НПМ у в. Краснае***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Зося Калматовіч** *(Варапаева),* **Ганна Гінько** *(Глыбокае),* **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае),* **Зарана Высоцкая** *(Глыбокае),* **Рамейка Л.** *(Рамейкі),* **Вольга Мятла** *(Сталіца),* **Валянціна Падгайская** *(Паставы),* **Леановіч В.І.** *(Віцебск),* **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына),* **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі),* **Галіна Галуза** *(Падсвілле),* **Ніна Шпак** *(Друйск),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Леанід Грыбач** *(Гомель),* **Ірына Кончыц** *(Гомель),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына),* **Вацлава Скрага** *(Падсвілле),* **Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца),* **Браніслава Юран** *(Браслаў),* **Лілія Будзіч** *(Сітцы),* **Ганна Жусель** *(Петкунішкі),* **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы),* **Ганна Курыловіч** *(Новы Пагост),* **Людміла Падаляка** *(Полацк),* **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў),* **Соф’я Чырвінская** *(Язні),* **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы),* **Шук А.С.** *(Лявонпаль),* **Феакцістава Л.М. (***Камарова),* **Эма Козел** *(Докшыцы),* **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле),* **Ванда Дзенісенка** *(Гомель),* **Данута Мароз** *(Лонскія),* **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)***.**

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

→ У сумесным пагадненні паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнай Царквой, падпісаным у 1993 г. у Баламандзе, абедзве супольнасці адмовіліся ад ранейшага падыходу, які прыпісваў збаўчую моц толькі свайму ўласнаму Касцёлу ці Царкве (§13): “Пасля агульнаправаслаўных канферэнцый і II Ватыканскага Сабору стала асабліва відавочным, што аднаўленне поглядаў на Касцёл як на супольнасць і наданне гэтым поглядам належнай вагі – і з боку праваслаўных, і з боку католікаў – карэнным чынам змянілі перспектывы і тым самым пераставілі акцэнты. Кожны з бакоў прызнае, што нішто з даручанага Хрыстом свайму Касцёлу – ні абвяшчэнне апостальскай веры, ні ўдзел у адных і тых самых сакрамантах, ані перадусім адзінае святарства, што здзяйсняе Ахвяру Хрыстову, і апостальская пераемнасць (сукцэсія) біскупаў – не можа лічыцца эксклюзіўнай уласнасцю толькі аднаго з нашых Касцёлаў”. *(Гл. М. Киннемон, Б. Коуп. “Экуменическое движение. Антология ключевых текстов”. Москва 2002, с. 169)*.

І сёння Руская Праваслаўная Царква ў “Асноўных прынцыпах адносінаў Рускай Праваслаўнай Царквы да іншаслаўя” афіцыйна заяўляе, што “супольнасці, якія адпалі ад адзінства з Праваслаўем, ніколі не разглядаліся як цалкам пазбаўленыя ласкі Божай. Разрыў царкоўнай еднасці непазбежна вядзе да пашкоджання жыцця ласкі, але не заўсёды да поўнага яе знікнення ў аддзеленых супольнасцях” *(Гл. “Основные принципы отношения Русской Православной Церкви к инославию”, 1.15)*.

Чарговым і вельмі важным крокам на шляху да адзінства стала гістарычная сустрэча, якая адбылася 12 лютага 2016 г. паміж Папам Рымскім Францішкам і Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Кірылам у Гаване, на Кубе. Падчас гэтай сустрэчы была падпісаная сумесная дэкларацыя, якая пачынаецца такімі знамянальнымі словамі: “З волі Бога і Айца, ад Якога паходзіць усялякі дар, у імя Пана нашага Езуса Хрыста, з дапамогаю Святога Духа Суцяшальніка, мы, Папа Францішак і Кірыл, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі, сустрэліся сёння ў Гаване. Дзякуем Богу, Якога праслаўляем у Тройцы, за гэтую сустрэчу, першую ў гісторыі”.

## Беларусь – бласлаўлёная зямля дыялогу

Вера ў аднаго Бога і далей вядзе католікаў і праваслаўных да пошуку бачнага адзінства нашых пакуль што падзеленых супольнасцяў. Для гэтага неабходна працягваць дыялог, і Беларусь, дзе здаўна традыцыйна мірна суіснуюць кананічныя структуры і Каталіцкага Касцёла, і Праваслаўнай Царквы, з’яўляецца сапраўды бласлаўлёным месцам такога дыялогу.

Пра адкрытасць да дыялогу і зацікаўленасць у ім неаднаразова сведчыў былы кіраўнік Беларускай Праваслаўнай Царквы мітрапаліт Філарэт, які як сапраўдны пастыр імкнуўся да духоўнага дабра ўсіх ахрышчаных: і праваслаўных, і католікаў.

Як Патрыяршы Экзарх ён падкрэсліваў, “што Руская Праваслаўная Царква ставіцца да Рыма-Каталіцкага Касцёла „па-сястрынску“. Адметна, што такое стаўленне існуе, нягледзячы на адсутнасць эўхарыстычнага яднання” (Філарэт, мітрапаліт (К. Вахрамееў). Даклад “Міжрэлігійны дыялог у посткамуністычным рэгіёне”: “Наша вера” 23: 2003, № 1, с. 18).

Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, гаворачы пра імкненне беларускіх католікаў і праваслаўных да адзінства, адзначае, што яно “ўзнікае там, дзе ёсць звычайныя людскія адносіны паміж вызнаўцамі розных канфесій: на працы, у вучнёўскім або студэнцкім калектыве, паміж суседзямі. Гэта еднасць, якая ўжо існуе ў нашым асяроддзі. Прыналежнасць да розных канфесій не з’яўляецца перашкодай, каб будаваць шчаслівае жыццё ў сям’і, выхоўваць дзяцей. І гэта пацвярджае сённяшняя рэчаіснасць. Агульным для католікаў і праваслаўных, нягледзячы на некаторыя знешнія адрозненні духоўных практык, застаецца галоўнае – іх вера. Таму імкненне да адзінства – гэта штосьці вельмі неабходнае, што патрабуе далейшай працы ў гэтым накірунку” (Р. Сушко. “Жніво вялікае”...: “Дыялог” 223: 2014, № 4, с. 15).

Беларуская дзяржава таксама не дзеліць сваіх грамадзянаў па канфесійнай прыналежнасці, а ў прэамбуле “Закона Рэспублікі Беларусь аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях” сказана пра прызнанне “вызначальнай ролі Праваслаўнай царквы ў гістарычным станаўленні і развіцці духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа”, а таксама “духоўнай, культурнай і гістарычнай ролі Каталіцкай царквы на тэрыторыі Беларусі”.

Такім чынам, Беларусь – адзінае, бадай што, месца ў Еўропе, дзе хрысціяне розных канфесій ніколі не варагавалі паміж сабою, ніколі не “дзялілі Бога” на “нашага” і “вашага”, бо ў нас кожны з маленства ведае, што Бог – адзін.

***дыякан Мікола Гракаў,*** *catholic.by*

# Ці можна адначасова практыкаваць індуізм і каталіцтва?

*"Пахвалёны Езус Хрыстус! Адкажыце мне, калі ласка, ці можна адначасова практыкаваць індыйскае і каталіцкае веравызнанні? Ці можна сёння дома праводзіць розныя абрады пакланення індыйскім багам, а на наступны дзень ісці ў касцёл і прымаць Камунію?"*

*Ганна*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC, Росіца:**

– На векі вечныя! Амэн! Мне вельмі цікава, гэта пытанне пра Вас, пра Вашыя перажыванні ці Вы пытаеце пра іншага чалавека? Адказ трэба шукаць у першай запаведзі: "Не май іншых багоў, апроч Мяне". Досвед Ізраіля і сёння актуальны для нас, людзей XXI стагоддзя. Таксама сёння, як і тады, існуе шмат розных вераванняў на свеце. І сёння, і тады ў мірскім разуменні чалавек меў свабоду выбару. І сёння, і ў старажытнасці існавала талерантнасць да чалавека іншай рэлігіі. У прынцыпе гэта было нормай, што бажкі апекаваліся або канкрэтным народам, або канкрэтнай тэрыторыяй. Таму, першая запаведзь, якая забараняла альтэрнатыўнасць веравання, была сапраўды рэвалюцыйнай, не сустраканай раней. Не пабаюся сказаць, што яна не прыдуманая чалавекам, а насамрэч аб'яўленая Майсею.

У Старым Запавеце бачым, што выбраны народ неаднаразова ламаў гэтую запаведзь, звяртаючыся да бажкоў народаў, сярод якіх яму даводзілася жыць. Гэта не павінна здзіўляць. Бог Ізраіля не меў вялікіх храмаў, і доўгі час культавае служэнне адбывалася ў вялікай, аздобленай, але ўсё ж палатцы, у шатры. У гэты ж час культ шырокавядомага бажка пладавітасці Ваала быў вельмі распаўсюджаны і карыстаўся вялікай папулярнасцю. Плюс меў велічэзныя святыні.



Ідалапаклонства заўсёды наклікала на Ізраіль Божы гнеў. Як кажа Слова Божае, Бог – гэта Бог раўнівы. Ён не згаджаецца на двухзначныя адносіны.

Свядомы актыўны ўдзел у абрадах і культах іншай рэлігіі супярэчыць першай запаведзі і практычна з'яўляецца адыходам ад веры ў Бога Жывога, Бога Біблії. Такі чалавек без шчырага пакаяння і адрачэння не можа прыступаць да сакрамантаў і, між іншым, да Святой Камуніі.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**25 лютага 2018 г.**

***Мк 9, 2-10***

Перамяніўшыся ў прысутнасці вучняў на гары Табор, Езус адкрыў перад імі Сваю Боскасць. Ідучы за Езусам, трэба памятаць і разумець, што Ён – Бог. Не ўсведамляючы гэтага, мы не захочам ісці за Ім да канца. Айцец Нябесны пацвярджае Боскасць Езуса і заклікае прыняць Яго навуку. Езус раскрывае перад вучнямі Божы план збаўлення, прадказвае сваю смерць і змёртвыхпаўстанне. Мы таксама можам спадзявацца, што Езус будзе раскрываць нам Свае планы, каб мы яшчэ паўней і лепш у іх удзельнічалі. Для гэтага трэба толькі прызнаць, што Езус – Бог і паслухмяна ісці за Ім.

*– Ці памятаю, што Езус – гэта Бог?*

*– Ці не маю схільнасці прымаць Езуса як міфічнага персанажа хрысціянскіх легендаў?*

*– Ці не лічу Езуса летапісным героем, Які калісьці жыў, стаў заснавальнікам нашай веры, але цяпер далёка ад мяне, дзесьці там, са Сваімі святымі?*

*– Ці памятаю, што маю Бога ў сэрцы?*

*– Ці памятаю, што Езус – Бог, прысутны на алтары ў выглядзе хлеба?*

*– Ці ўсведамляю, што Ён – Жывы Бог – звяртаецца да мяне праз Слова Жыцця – Біблію?*

*– Ці веру, што Касцёл – гэта жывая супольнасць, галавой каторай з'яўляецца Езус?*

*– Ці размаўляю з Ім?*

*– Ці шукаю ў Яго падказак, а галоўнае, Ягонай волі?*

*– Ці будую разам з Ім у сабе і вакол сябе Божае Валадарства?*

**4 сакавіка 2018 г.**

***Ян 2, 13-25***

Паводзіны Езуса ў святыні з'яўляюцца выкананнем прароцкіх прадказанняў пра будучага Месію, Які прагоніць са святыні гандляроў. Ён – Месія, Які адновіць культ, але таксама Ён – Сын Божы і Той, Хто ўваскрэсне. У той час Яго словы і паводзіны не былі зразумелымі да канца. Толькі пасля змёртвыхпаўстання Яго вучні зразумелі іх сэнс. Езус ведае, кім з'яўляецца чалавек і якая ў яго натура. Будучы Богам, Езус перарастае людзей, хаця з'яўляецца і чалавекам таксама. Бог ведае таямніцы сэрца кожнага з нас. Яго не трэба вучыць, і Яму не трэба здагадвацца пра нашы інтэнцыі ці нашу веру. Ён ведае.

*– Ці адкрываю я сваё сэрца Богу?*

*– Ці размаўляю з Ім шчыра на споведзі і на малітве?*

*– Ці з'яўляецца Бог маім дарадчыкам?*

*– Ці перыяд Вялікага посту ёсць часам, калі я запрасіў Езуса, каб ачысціць святыню майго сэрца?*

*– Ці здольны я прыняць Божыя заўвагі?*

*– Ці бачу, што Езус хоча выкінуць з майго жыцця, каб ачысціць маю любоў?*

*– Ці веру, што Ён – Месія?*

*– Ці Ён – мой Збаўца?*

*– У якіх справах мне патрэбна яго дапамога?*

*– Ці разумею, што Ён збаўляе мяне ад граху і смерці?*

*– Ці памятаю, што мой Езус – гэта Усемагутны Бог?*

*– Ці не зашмат сабе дазваляю ў адносінах з Ім?*

*– Ці не злоўжываю Яго дабрынёй?*

*– Ці не тапчу Яго Святасці?*

*– Ці не прыступаю да Камуніі, маючы смяротны непаспавяданы грэх?*

*– Ці сур'ёзна стаўлюся да Божага Слова?*

*– Ці веру ў Яго змёртвыхпаўстанне?*

*– Ці памятаю, што калі Ён уваскрос, то і мы маем права спадзявацца?*

*– Ці памятаю ў штодзённым жыцці пра вечнасць?*

**11 сакавіка 2018 г.**

***Ян 3, 14 – 21***

Праз Сваё ўзвышэнне на крыжы Езус стаў выратаваннем для ўсіх людзей. Кожны чалавек, атручаны ўкусам граху і зла, можа быць выратаваны і аздароўлены Хрыстом. Бог паслаў Езуса, каб выратаваць чалавека. Выратаваць ад граху і вечнай смерці. Трэба прыняць Езуса і паверыць у Яго і Яму. Паверыць у Яго навуку, бо яна дае жыццё. Трэба пабудаваць з Ім асабістыя адносіны. Трэба карміцца Яго Целам і Крывёю. Рашэнне аб маёй еднасці з Езусам не прымаецца дзесьці ў далёкай будучыні. Мы выбіраем жыццё з Ім цяпер, адкрываем Яму сэрца і распачынаецца жыццё з Ім, якое працягнецца ўсю вечнасць. Або мы не прымаем Яго і застаёмся па-за Ім цяпер і навекі. Страшны суд стане адлюстраваннем нашых сённяшніх рашэнняў і выбару.

*– Ці думаю я пра сваё вечнае збаўленне?*

*– Ці разумею, што маё збаўленне толькі ў Хрысце?*

*– Ці не хачу пабудаваць сваю святасць і дасканаласць без або міма Хрыста?*

*– Ці памятаю, што Бог хоча майго збаўлення?*

*– Ці ўсведамляю, што зло і грэх забіваюць і могуць прывесці мяне да пекла?*

*– Ці іду з грахом і са страхам перад смерцю да Езуса?*

*– Ці сур'ёзна стаўлюся да навукі Хрыста?*

*– Ці разумею, што гэта справа жыцця і смерці?*

*– Якія рашэнні прымаю сёння наконт сваёй веры?*

*– Ці гэта выбар Хрыста?*

*– Як я стаўлюся да Божага слова?*

*– Ці жыву згодна з Ім?*

*– Ці ўдзельнічаю ў Імшы?*

*– Ці прымаю Камунію?*

*– Ці будую асабістыя адносіны з Езусам?*

**18 сакавіка 2018 г.**

***Ян 12, 20-33***

Набліжаецца час аб'яўлення Божай славы. Узвышаны на крыжы, Езус стане праяўленнем бязмернай любові Бога да чалавека, праявіць сваю паслухмянасць Айцу. Яго смерць стане пачаткам вялікага плану, які прынясе змёртвыхпаўстанне. Езус кліча нас ісці дарогай паслухмянасці Айцу. Калі мы будзем любіць, як Езус, нягледзячы на цяжкасці і нават на смерць, то будзем сведчыць пра Бога. Ён не пакіне нас, і мы станем удзельнікамі славы, як Езус. Езус усведамляе, якая дарога Яго чакае, і ідзе па ёй дабраахвотна, падпарадкоўваючыся Айцу. Ён ведае, што гэтым прыцягне да сябе і да вечнага жыцця людзей.

*– Ці веру, што ўсім і ў тым ліку маім жыццём валадарыць Бог?*

*– Ці разумею, што Бог хоча майго дабра?*

*– Ці ведаю, што выкананне Божай волі – гэта найлепшая з магчымых дарог для мяне?*

*– Ці хачу выконваць Божую волю?*

*– Ці задумваюся, чаго Бог ад мяне хоча?*

*– Можа, думаю пра далёкія і вялікія справы, а недаацэньваю штодзённыя?*

*– Як выконваю свае сямейныя абавязкі?*

*– Як люблю сужэнца, дзяцей, родных?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці згодна гэта з Божай воляй?*

*– Як выконваю свае прафесійныя абавязкі?*

*– Ці іду за прыкладам – узорам Езуса?*

*– Ці гатовы я цярпець для таго, каб любоў перамагала?*

*– Ці здольны я ў чымсьці сабе адмовіць для жонкі (мужа), дзяцей, бацькоў?*

*– Ці лічу Езуса Настаўнікам любові?*

*– Ці веру, што вернасць яго вучэнню прывядзе мяне да вечнага шчасця?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*Віцебск*



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА









## Даведайся, што такое грэх

Што такое грэх, даведаешся, калі ў правільным парадку злучыш словы. Напачатку напісаныя ў таблічцы, якую трымае дзяўчынка, а пасля тыя, што трымае хлопчык.



















Запішы тут адказ, што атрымаўся! ____________________

______________________________________________

______________________________________________

______________________________________________

## Як ачысціцца ад граху?

Як ачысціцца ад грахоў, даведаешся, калі правільна выканаеш наступнае заданне, каторае табе прапаноўвае "Пазнавайка"!




Выпішы словы з ланцужка. Але не ўсе, а толькі тыя, што змешчаны ў чырвоных фігурках.

______________________________________________

______________________________________________

## Знайдзі выказванне

Што сказаў святы Францішак Сальскі пра грэх, даведаешся, калі складзеш наступнае выказванне. Супастаў і знайдзі ў пустых стрэлачках правільны парадак слоў.




______________________________________________

______________________________________________

## Дапамажы хлопчыку






Хлопчыку Сашу вельмі цяжка жыць са сваімі грахамі. Прывядзі яго да Хрыста, Які заўсёды дапамoжа справіцца з любым грахом і любой цяжкасцю.

## Малітва

Разам са сваімі бацькамі памаліся наступнымі словамі:

"Дарагі Божа! Я ведаю, што грахі, якія раблю, аддаляюць мяне ад Цябе. Вельмі шкадую пра гэта і хачу больш не грашыць. Калі ласка, прабач мяне, Езу, і дай мне сілы, каб кожны дзень я мог змагацца з грахамі.

Амэн".

РУБРЫКА: ПАЗНАЁМ СВЯТЫХ

## Святы Францішак Сальскі



Святы Францішак Сальскі нарадзіўся у 1567 годзе. У школе хлопчык Францішак вучыўся выдатна. Пазней, калі стаў біскупам Жэневы, заснаваў жаночы манаскі ордэн Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі. Жыў вельмі проста,аскетычна. Шмат часу аддаваў малітве і вывучэнню Біблії. Таксама біскупа вельмі любілі дзеці.

Да самай смерці ён нястомна служыў справе Касцёла: прапаведаваў, спрыяў росту парафій, прыходзіў на дапамогу бедным і абяздоленым. Стаў першым у Францыі доктарам Касцёла - такое ганаровае званне даецца заслужаным багасловам.

Памёр святы Францішак 28 снежня 1622 года. Апошнім словам, якое прамовілі ягоныя вусны, было "Езус". Святы Францішак з'яўляецца апекуном пісьменнікаў, рэдактараў, журналістаў і ўсёй каталіцкай прэсы.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***




# #ddn18: фестываль хрысціянскай музыкі ў Баранавічах

**10 лютага ў Баранавічах у сёмы раз прайшоў фестываль хрысціянскай музыкі "Дастукацца да нябёсаў".**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

На канцэрт прыбылі маладыя людзі разам са сваімі святарамі і законнымі сёстрамі з усіх куткоў нашай Бацькаўшчыны. Прадстаўнікі з Віцебскай дыяцэзіі таксама прыехалі на музычны фэст. У мінулым годзе была толькі моладзь з Глыбокага, а на гэты раз да дыяцэзіяльнай "каманды" далучыліся і маладыя людзі з Мёраў, Полацка і Віцебска (парафія Святой Барбары).

Моладзевы рух "Open" з Гродна і пінскі семінарыйны гурт "Подых духа", каталіцкі "The Crossway" і пратэстанцкі "NG Youth" з Баранавіч, евангелізацыйны праект "Рыбы" на працягу амаль чатырох гадзін запальвалі сваімі спевамі, танцамі, харызмай агеньчыкі ў сэрцы кожнага, хто прыбыў на гэты фестываль.

На канцэрт завітаў біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка, які толькі што вярнуўся з Рыма пасля візіту *Ad limina Apostolorum*, і перадаў прывітанне ад Святога Айца Францішка.

Падчас канцэрту ўдзельнікі маглі атрымаць і памятныя падарункі: адмысловую майку і каляндар. Але трэба было адказаць на некаторыя пытанні вядоўцы. І з гэтымі заданнямі прысутныя справіліся.

Цікавы факт: на самым першым фестывалі прысутнічала каля 200 чалавек, і праходзіў ён у Астраўцы ў 2012 годзе. На той момант назвы "Дастукацца да нябёсаў" не было. А дапамагла ў гэтай справе… рэгіянальная газета "Астравецкая праўда", якая пасля правядзення згаданай імпрэзы надрукавала артыкул "Фестываль хрысціянскай музыкі, ці Як дастукацца да нябёсаў".

VII фестываль сабраў амаль тысячу гледачоў у зале і каля пяцісот карыстальнікаў Youtube, якія праз немагчымасць прыехаць усё ж змаглі дзякуючы сучасным тэхналогіям "папрысутнічаць" на свяце віртуальна.

# В Париже церковь начала собирать пожертвования пластиковыми картами

**Руководство католической церкви Франциска из парижского квартала Молитор установило в одной из корзин для денег смартфон и адаптер с NFC-считывателем, сообщает Le Parisien.**

Благодаря этому прихожане смогут через банковскую карту или смартфон оставлять пожертвования, которыми оплачиваются базовые нужды (например, коммунальные услуги). Раньше в такие корзины пожертвования опускались наличными.

В плетеную корзину на подставку помещен смартфон и специальный считыватель – они позволяют прихожанам сделать пожертвование с помощью как телефона, так и кредитной карты. Перед этим на сенсорном экране смартфона предлагается выбрать сумму платежа – 2, 3, 5 или 10 евро. Как заверяют в церкви, система организована таким образом, что пожертвование будет анонимным.

Идею создать такую электронную корзину предложил директор по развитию финансовых ресурсов Парижской епархии Кристоф Русселo (Christophe Rousselot), а реализовать её помогла местная IT-компания Actoll.

Настоятель церкви о. Дидье Дюверн (Didier Duverne) сообщил изданию, что он и его паства восприняли технологическую новинку с энтузиазмом: "Наши прихожане восприимчивы к новизне". Отмечается, что цель инновации – не увеличить пожертвования, а адаптировать церковь в современной жизни. "Наша цель – предвосхищение будущего, в котором у людей больше не будет наличных даже на багет", — приводит слова священника Francetvinfo.

В случае успешности эксперимента, систему введут еще в 120 парижских приходах.

*rublev.com*




# Расклад курсаў і сустрэч у Оршы на люты – сакавік 2018 года

**Рэкалекцыйны Дом святога Юзафа ў Оршы запрашае на курсы, рэкалекцыі, сустрэчы, якія могуць дапамагчы чалавеку ў рэалізацыі яго хрысціянскага паклікання, у паглыбленні адносінаў з Богам. Вельмі раім выкарыстаць такую магчымасць і прапануем вам, дарагія чытачы, расклад курсаў на люты-май 2018 г.**

**"Вінаграднік"**
**(24 лютага 2018 г.)**

"Вінаграднік" – гэта малітоўна-фармацыйная сустрэча, якая адбываецца ў Оршы больш за пяць гадоў. У праграме – дзве лекцыі, святая Імша, магчымасць споведзі, а таксама малітва бласлаўлення і заступніцтва ў розных нашых патрэбах.

**Пачатак:** субота – 10.00
**Заканчэнне:** субота – 20.30

Запіс абавязковы і працягваецца да 22 лютага (чацвер). Запісацца можна па тэлефоне: +37529 7130233.

Адказны за сустрэчу –
**а. Аляксандр Жарнасек МІС.**

**Курс "Назарэт" (9–11 сакавіка 2018 г.)**

**Тэма:** "Богашуканне"

Курс "Назарэт" – гэта рэкалекцыі, якія грунтуюцца перш за ўсё не столькі на пачутых лекцыях, колькі на асабістай працы падчас курса з атрыманым матэрыялам і словам Божым. Натхненнем для гэтага курсу былі ігнацыянскія рэкалекцыі. Плануецца, што



працяг курсу будзе прысвечаны розным тэмам.

**Пачатак:** пятніца – 18.00
**Заканчэнне:** нядзеля – 13.30

Запіс абавязковы і працягваецца да 7 сакавіка (серада). Запісацца можна па тэлефоне: +37529 7130233.

Адказны за курс –
**а. Аляксандр Жарнасек МІС.**

Па ўсіх дадатковых пытаннях можна звяртацца: **+37529 7130233** – а. Аляксандр Жарнасек МІС.

Больш інфармацыі можна знайсці на сайце www.viartannie.org, а таксама на Facebook-старонцы рэкалекцыйнага дома.

**Адрас:** *г. Орша, вул. Савецкая, 6.*

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасылаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

**Адказы на тэст са старонкі 9:**
**1 – А; 2 – Б; 3 – А; 4 – В; 5 – А; 6 – В; 7 – А; 8 – А.**

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. Заказ 1576

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах. Тыраж 3100 экз. Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3. Афсетны друк. Падпісана ў друк 21.02.2018 г. у 11.57

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь